Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4721) 14 чэрвеня 2013 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей XIII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што за гады свайго існавання фестываль ператварыўся ў маштабнае мерапрыемства, якое ўносіць важкі ўклад у развіццё і папулярызацыю творчасці беларускіх кампазітараў і паэтаў, дорыць шматлікім гледачам радасць сустрэч з любімымі артыстамі.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка яго родным і блізкім. «З жыцця пайшоў адзін з патрыярхаў беларускага жывапісу, які пакінуў яркі след у сучасным выяўленчым мастацтве», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ У штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы праходзіць 4-я сесія Канферэнцыі ўдзельнікаў Канвенцыі 2005 года аб ахове і заахвочванні разнапланавасці форм культурнага самавыяўлення. Беларусь далучылася да Канвенцыі ў 2006 годзе. У сесіі бяруць удзел Надзвычайны і Паўнамоцны пасол, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка і намеснік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік.

✔ Фільм Кацярыны Махавай «Асобы тэатр. У пошуках шчасця» ўключаны ў конкурсную праграму XIX Міжнароднага фестывалю рэгіянальных тэлекампаній у Кошыцы (Славакія), які праходзіць 11 — 15 чэрвеня. Карціна будзе змагацца за галоўны прыз *Golden Beggar* у намінацыі «Дакументальнае кіно». За найвышэйшую ўзнагароду ў гэтай катэгорыі паспаборнічаюць яшчэ дзве беларускія — «Пячнік» Алы Вольскай і «Пагаварыце са мною» Марыяны Корбут.

✔ Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прадставіў спектакль «Вяселле» ў пастаноўцы Уладзіміра Панкова на міжнародным тэатральным фестывалі ў румынскім Сібіў — трэцім па значнасці еўрапейскім форуме пасля Авіньёнскага і Эдынбургскага. Ён праходзіць кожны год у пачатку лета (сёлета 7 — 16 чэрвеня). Форум складаецца з пятнаццаці творчых секцый: спектаклі, вулічныя паказы, цырк, адкрыты кірмаш выканальніцкіх мастацтваў, тэатр і кіно, фламенка, сусветная музыка, тэатральныя чытанні і радыёпастаноўкі і г. д.

✔ «Ноч кіно» арганізуюць у Мінску 14 — 15 чэрвеня. Начны паказ адбудзецца ў кінатэатры «Мір». У праграме — тры новыя фільмы. Першы сеанс пачнецца ў 23.00. Акрамя кіно наведвальнікаў чакае фотасесія ад прафесійных фатографаў, выступленні артыстаў і майстар-класы, сюрпрызы ды розыгрышы. Начныя кінасеансы практыкаваліся ў Мінску і раней. Але ў гэтым годзе арганізатары прапанавалі мінчанам правесці ў кіназалах усю ноч па адным білеце.

✔ Франка-беларуская асацыяцыя «Жыццё ў музыцы» правяла канцэрт з удзелам маладога беларускага піяніста Вячаслава Спірыдонава. Выступленне адбылося ў знакамітым Музеі арміі ў Парыжы.

✔ Падведзены вынікі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 95-годдзю Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Лаўрэатамі прэміі міністра абароны Рэспублікі Беларусь сталі Яўген Каршукоў і Міхась Пазнякоў (паэзія), Алесь Савіцкі (проза), Вячаслаў Бандарэнка (публіцыстыка), Георгій Марчук (драматургія).

**Падрыхтавала Ярына РЫТАМІНСКАЯ**




*Фота Пятра Курловіча, калаж Віктара Калініна*

# Пастаўская феерыя

«Традыцыі, шматграннасць, адкрытасць» — так лаканічна акрэслены фармат XVI Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах. За лаканізмам, аднак, — віхурны россып з'яў народнай культуры, і не толькі музычнай.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Створаны 26 гадоў таму, фестываль народных інструментаў паступова прыцягнуў да сябе самыя розныя жанры мастацтва: класічную музыку, «мелодыю палітры» (жывапіс) і «мелодыю сэнсаў» (літаратуру), тэатралізаванае ўвасабленне побыту «палацаў і сядзіб» ды мастацтва рамёстваў. Да таго ж тут выпадак, калі «культура» цягне за сабой усё астатняе: добраўпарадкаванне, развіццё інфраструктуры, эканамічны прыбытак, імідж краіны, сетку турыстычных маршрутаў. «Горад жыве дзеля фестывалю або фестываль дзеля горада — цяпер ужо цяжка сказаць», — трапна выказаўся намеснік старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Уладзімір Цярэнцьеў. — І нават у паветры адчуваецца свята!»

У 1987-м шмат хто не верыў у трываласць новага фестывалю. Паклаўшы пачатак у Віцебску з удзелам 150 мясцовых самадзейных артыстаў, у 1996-м ён ужо надзейна замацаваўся на пастаўскай зямлі і пачаў набываць статус міжнароднага. Сёння, у 2013-м, свята народных музыкаў вітае каля 1000 майстроў з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі, Славакіі, Літвы, Латвіі, Венесуэлы. За час з першага адкрыцця ўдзельнікі больш як з 20 краін выступілі на гарадскіх канцэртных пляцоўках. Адпаведна статусу — госці, волаты музычнага майстэрства. Сёлета — Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Беларускі дзяржаўны заслужаны харэаграфічны ансамбль «Харошкі». Іх высокае майстэрства — дар пастаўчанам і гасцям свята.

Паводле Тадэуша Стружэцкага, ініцыятара, нязменнага старшыні аргкамітэта фестывалю, поспех — у паслядоўнасці імкнення да некалі вызначаных мэт і, разам з тым, — у адкрытасці мэтам новым, якія лагічна вынікаюць з агульнай канцэпцыі захавання, вывучэння і папулярызацыі народнай культурнай спадчыны, стварэння ўмоў для творчых стасункаў прадстаўнікоў народных калектываў. Адсюль і разнастайнасць. У традыцыйна акрэсленую паслядоўнасць «цымбальна-гармонікавых» канцэртаў (адкрыццё фэсту — творчае спаборніцтва калектываў і асобных выканаўцаў «Хто каго?» — гала-канцэрт на фоне «Горада майстроў») нязмушана ўплеценыя самыя розныя імпрэзы: тэатралізаваны «Пастаўскі баль», канцэрт арганнай і класічнай музыкі, выстаўка па выніках адкрытага пленэру ў гонар 180-годдзя А. Ромера, літаратурны «ранішнік» і аўтограф-сесія з удзелам А. Бутэвіча (дарэчы, менавіта ў межах пастаўскага фестывалю адбылася прэзентацыя новай кнігі пісьменніка) і Н. Гальпяровіча, канцэрт мелодый беларускіх палацаў і сядзіб, тэатралізаванае шэсце фестывальнага спадарства. І ўсё гэта нязмушана перацякае з цэнтральнай плошчы ў касцёл, з касцёла — у Дом Рамёстваў, у Дом культуры, адтуль — у славуты Палац Тызенгаўзаў, ізноў на плошчу, каб нарэшце зазвінець-зайграць у гарадскім парку на беразе ракі. Ці адмовіцца той, хто аднойчы трапіў у асяродак трохдзённага народнага свята, завітаць сюды і ў наступны раз?..

«Збіраць па крупіцах, засвойваць спадчыну продкаў, свядома жыць побач з ёй — менавіта тады зямля стане роднай, утульнай, невыпадковай», — у гэтым, паводле Т. Стружэцкага, значэнне фестывалю. Яшчэ адно сцвярджэнне сувязі «ўсяго з усім»: радзімы вялікай і малой, культуры і традыцыі, свядомасці і быцця.

# Маладзечанскі фэст

**Ірына ТУЛУПАВА**

На XIII Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў конкурсе маладых выканаўцаў узяў удзел 21 конкурсант. Дыпломам І ступені ўганаравана Наталля Кірыенка (Мінская вобласць), 2-е месца падзялілі Андрэй Цямчык (Брэсцкая вобласць) і Ягор Шаранкоў (Гомельская вобласць). Гран-пры конкурсу — у 18-гадовай магіляўчанкі Валерыі Грыбусавай. Такім чынам, фестываль, заснавальнікамі і ініцыятарамі правядзення якога выступаюць Мінскі абласны выканаўчы камітэт, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, заслужаны калектыў «Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі» і Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт, назваў імёны самых здольных маладых выканаўцаў.

Мы пацікавіліся, як ставяцца да песеннага форуму яго ганаровыя госці і арганізатары.

**Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік:**

— Значэнне фестывалю нельга пераацаніць. Без нацыянальнай мовы, песні, паэзіі не можа існаваць народ. Мы вельмі ўдзячныя Мінскаму аблвыканкаму і Маладзечанскаму райвыканкаму, калектывам і арганізацыям за тую вялізную працу, якую яны вызначалі па правядзенні і падрыхтоўцы фестывалю.

**Старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барыс Батура:**

— Гэта адзіны ў краіне фестываль беларускай песні і паэзіі. І значны ён не толькі для вобласці, а і для дзяржавы. Таму што ў беларускай песні і паэзіі — наша душа. Мы павінны яе слухаць і чуць! Тады і адносіны адно да аднаго будуць іншыя, мы станем больш добрымі. Гэты, XIII фестываль адрозніваецца яшчэ і тым, што сёлета спаўняецца 75 год Мінскай вобласці і прайшло 20 год, як ён быў заснаваны і праведзены.

**Пытанне «ЛіМа»: Як вы лічыце, у фестывалю ёсць перыяды ўзлётаў і зацішша?**

— Не стану гаварыць пра ўсе 20 год. Але кожныя два гады мы збіраемся рабіць




*Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў уручае статуэтку ўладальніцы Гран-пры Валерыі Грыбусавай.*

нешта новае. Ужо вырашана, што другі дзень будзе прадстаўляць адна з абласцей. Распачне — Мінская. У наступныя гады будуць іншыя рэгіёны. Гэта дасць пэўны штуршок для развіцця нашай культуры. Лічу, што ўдзел маладых выканаўцаў у конкурсе павінен выклікаць у іх пачуццё гонару — што змаглі паўдзельнічаць у фестывалі *беларускай* песні і паэзіі.

**Міністр культуры Барыс Святлоў:**

— Фестывалі, якія праводзяцца ў Беларусі (іх налічваецца каля 50), — гэта дэманстрацыя нашай культурнай моцы, дасягненняў, спадчыны. Гэта вельмі добра, што кожны фестываль не дублюе іншы, гэта асобны жанр. У назве фестывалю ў Маладзечне ўжо закладзена яго адметнасць: гэта фестываль беларускай музыкі, паэзіі, мовы, песні. Мне здаецца, у нас вялікая будучыня, таму што сярод удзельнікаў конкурсу шмат таленавітых маладых.

**Пытанне «ЛіМа»: Ці можа фестываль у будучым стаць міжнародным? За мяжой жывуць шмат беларусаў.**

— Бясспрэчна. Думаю, гэта якраз тая перспектыва, той крок, які мы павінны зрабіць у развіцці маладзечанскага форуму. Калі ў фестывалі будуць удзельнічаць прадстаўнікі не менш як трох дзяржаў, тады ён зможа набыць статус міжнароднага. Калі ўсё атрымаецца, гэта можа адбыцца ў 2014 годзе.

**Народны артыст Беларусі, намеснік старшыні Саюза кампазітараў Беларусі, член журы Эдуард Зарыцкі:**

— З усіх фестываляў гэта адзін з самых моцных — па выканаўцах, рэпертуары і па ступені падрыхтоўкі. Уявіце: што такое для маладых спявацы, калі за плячыма — 150 чалавек аркестра?! Магчымасць папрацаваць з прафесіяналамі — таксама вельмі важная для пачынальнікаў. Я быў у складзе журы ў розных песенных спаборніцтвах. Звычайна бываюць два-тры моцныя выканаўцы, астатнія — на ўзроўні аматарскіх. А тут людзі падрыхтаваныя, і вельмі цяжка выбраць лепшых.

**Дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага Рыгор Сарока:**

— Я не задаволены фестывалем на 100 працэнтаў, як не можа быць задаволены прафесіянал раз і назаўсёды зробленай справай. Музыка вымагае, каб кожны раз пісалі лепш. Не згодны з тым, што Нацыянальны фестываль песні і паэзіі праходзіць у два дні. У Беларусі шмат калектываў, хочацца прадставіць і вобласці. Можна было б запрасіць нашых артыстаў з былога Савецкага Саюза. Гэтым разам нам выпаў гонар: гала-канцэрт вырашылі праводзіць на базе сімфанічнага аркестра нашага каледжа.

**Пытанне «ЛіМа»: На музычным падвор'і каледжа імя Агінскага традыцыйна праводзіцца паэтычныя чытанні. Якія ў вас наладжаны стасункі з літаратарамі?**

— Я з вялікай любоўю рабіў гэтае падвор'е. Такія пляцоўкі ёсць у Францыі, Германіі, Галандыі, Іспаніі. На сваім музычным падвор'і мы правялі масу канцэртаў — сімфанічных, харавых. Што да літаратуры... Я не магу пражыць і дня без кнігі. Калі знаходзіцца цікавая кніга, абавязкова яе набываю. Беларускія паэты — гэта каштоўная частка нашага грамадства і багацце нашай культуры. Хто падтрымае беларускую мову, як не чалавек культуры?

**Саліст фларэнтыйскага тэатра оперы «Камунале» Уладзімір Александровіч, лаўрэат 17 міжнародных конкурсаў (бас, барытон), удзельнік гала-канцэрта:**

— Я шчаслівы, што ў маім жыцці зноў з'явіўся фестываль. Так мы захоўваем нашыя традыцыі і дзелімся набыткамі ў творчасці. Тут выдатны калектыў — сімфанічны аркестр Маладзечанскага каледжа, горад квітнее, хочацца, каб і мы, знаходзячыся за мяжой, адчувалі сваю прысутнасць на Радзіме. У фларэнтыйскім тэатры праходзіць мая стажыроўка: вучуся не толькі музыцы і спевам, а і стылістыцы, фехтаванню (калі падчас спеваў трэба перадаць дух эпохі). А ў каледжы мы калісьці пачалі сумесную працу менавіта з класічнай эстрады. Таму што яна зразумелая для ўсіх. У гэтым сэнсе мне вельмі важная беларуская песня.

**Пытанне «ЛіМа»: якія рысы вы вылучаеце, калі гаворыце пра класічную эстраду?**

— Класічнае мастацтва патрабуе адшліфаванасці, высокай культуры. У класічнай эстрадзе дарагое слова. Не фразы нават, а кожнае слова.

**Мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг:**

— У конкурсе маладых выканаўцаў выступіў 21 канкурсант з усіх куткоў Бацькаўшчыны. Мы пачулі тое, чаго не маглі і прадбачыць: ёсць у нас таленты! Дзяўчыну, якая атрымала Гран-пры, я запрасіў на працу ў наш калектыў, яна гэтага заслугоўвае. Я задаволены тым, што шмат твораў нарадзілася менавіта тут, на сцэне ў Маладзечне. У гэтым горадзе ўпершыню прагучалі імёны многіх спевакоў. Цяпер мы пашырылі геаграфічныя межы фестывалю: на другі дзень выступленні праходзілі ў горадзе Чысць. Хочам зрабіць гэты куточак культурным цэнтрам. У Чысці ўжо адбыўся фестываль джазу, гэта слаўная музычная пляцоўка. З задавальненнем будзем там працаваць.

# ...І просты сімвал чысціні

«Пачатак пісьменства ў Карэі сягае ў 1443 год. Алфавіт налічвае 14 зычных літар і 10 галосных», — так пачала завочную вандроўку па Рэспубліцы Карэя падчас імпрэзы ў Доме дружбы яго дырэктар Ніна Іванова. У вечарыне браў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя ў Рэспубліцы Беларусь Кан Вон Сік.

**Рыта СТАХ**

Спадар пасол адзначыў, што кіраўніцтва яго краіны праяўляе вялікую цікавасць да Беларусі. Падчас сустрэчы, на якую былі запрошаны студэнты і выкладчыкі беларускіх ВНУ, літаратары, прадстаўнік Карэі распавёў пра палітыку краіны ў сферы культуры. І адразу адзначыў: у нашых дзяржаў і народаў шмат агульнага. «Мы — талерантныя краіны», — падкрэсліў Кан Вон Сік. — І нашы народы міралюбныя». Называлася і трэцяя рыса, якая вынікае з гісторыі: нам даводзілася адна ўлягчыць свае гаспадаркі пасля войнаў. Можа, таму так добра ведаем цану сяброўству.

Зрэшты, Карэя — краіна, памкненні і светабачанні якой адмыслова адлюстраваны на дзяржаўным сцягу. Яго белы колер — сімвал чысціні. У сярэдзіне — круг (вечны рух) , у якім знітаваныя чырвоны і сіні колеры (*ян* ды *інь*). Па кутках намаляваныя сімвалы чатырох стыхій: зямлі, неба, агню і вады. Паводле карэйскай філасофіі, менавіта улік усіх гэтых фактараў і забяспечвае поспехі асобнага чалавека і краіны, якія Карэя дэманструе ўсяму свету.

Нядаўна абраны старшыня таварыства беларуска-карэйскай дружбы рэктар Мінскага інстытута кіравання Мікалай Суша зазначыў: «Карэя — прыгожая краіна, якая мае шмат традыцый». Ёсць і новая: калі чалавек пабываў там 10 разоў, то на наступныя наведванні не патрабуецца віза. Пакуль што з Карэяй беларусы пераважна знаёмяцца праз інтэрнэт, па кнігах і даведніках. Але самы добры шлях — пабачыць усё на свае вочы, пабываць сярод людзей. У гэтым плане ў таварыства «вялікія амбіцыйныя планы». Сустрэча ў Доме дружбы таксама будзе мець працяг — на будучае плануюцца прэзентацыі і вечарыны.

Як станоўчыя рысы спадар пасол адзначыў, што беларускае тэлебачанне паказала фільм «Жамчужына палаца». На восень запланавана адкрыццё офіса таварыства садзейнічання гандлю паміж нашымі краінамі. «Карэйцы любяць вас», — падкрэсліў спадар Кан Вон Сік на завяршэнні сустрэчы.

### Каляндар літаратурных дат і падзей

**Чэрвень**

**15 чэрвеня** — 65 гадоў з дня нараджэння Анатоля Іванавіча Бутэвіча (1948), пісьменніка, перакладчыка, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча Беларусі.

**18 чэрвеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Фёдара Іванавіча Куляшова (1913 — 1993), крытыка, літаратуразнаўца, педагога.

**20 чэрвеня** — 50 гадоў з дня нараджэння Сяргея Валер'евіча Кавалёва (1963), драматурга, крытыка, літаратуразнаўца.

**21 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Казіміравіча Майхровіча (1908 — 1981), крытыка, літаратуразнаўца.

**25 чэрвеня** — 75 гадоў з дня нараджэння Ігара Іванавіча Шклярэўскага (1938), паэта, перакладчыка.

**27 чэрвеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Юрыя Герасімавіча Рудзько (1913 — 1948), празаіка, драматурга, публіцыста.

# «Нёман» у Доме рускага замежжа

На пачатку чэрвеня ў Маскве ў трэці раз сабраліся прадстаўнікі рускамоўных замежных СМІ.

**Алена ГАЛАЙ**

У Доме рускага замежжа імя А. Салжаніцына, які арганізоўвае Дні рускамоўнай прэсы, сустрэліся журналісты і рэдактары з Фінляндыі, Швецыі, Даніі, Францыі, Ірландыі, Балгарыі, Украіны і Беларусі. Беларусь на сустрэчы прадстаўляў часопіс «Нёман». Досвед удзелу ў мерапрыемствах Дзён рускамоўнай прэсы, дарэчы, стаўся новым не толькі для часопіса, але ў нечым і для арганізатараў — літаратурныя выданні былі запрошаны да ўдзелу ўпершыню, акрамя «Нёмана» гэты кірунак прадстаўляў часопіс «Новый Берег» з Даніі.

Асноўнай часткай праграмы стала прэзентацыя выданняў і праца за «круглым сталом» «Самабытнасць СМІ ва ўмовах інфармацыйнай разнастайнасці». Падчас дыскусіі ўдзельнікі абмеркавалі пытанні фармату выданняў і межы, у якіх ён змяняецца, пытанні білінгвізму, перспектывы жанру нон-фікшн на старонках інфармацыйных і літаратурных выданняў, а таксама пагаварылі пра магчымасці СМІ ў вобласці рэалізацыі грамадскіх праектаў. У якасці эксперта да ўдзелу ў «круглым стале» была запрошана прафесар, доктар філалагічных навук, дэкан факультэта журналістыкі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта Людміла Громава.

Падчас мерапрыемстваў удзельнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з працай Дома рускага замежжа імя А. Салжаніцына, які гуртуе суайчыннікаў, што жывуць не ў Расіі, і пераўтварае ў рэальнасць ідэю вяртання і захавання культурных каштоўнасцей і духоўнай спадчыны эміграцыі; пабываць у архівах ДРЗ, якія захоўваюць безліч унікальных дакументаў і музейных прадметаў; папрысутнічаць на адкрыцці навуковай канферэнцыі «Дынастыя Раманавых: традыцыі дабрачыннасці і мецэнацтва». Карысным досведам для прадстаўнікоў СМІ стала наведванне рэдакцыі «Литературной газеты» і інфармацыйнага агенцтва «РИА-Новости».

# Шматграннасць Малевіча



Фота Кастуся Дробава

**Калі спыніць чалавека на вуліцы і спытаць: ці ведаеце вы, хто такі Казімір Малевіч, — кожны скажа, што гэта мастак, які намаляваў «Чорны квадрат». Але на самай справе Малевіч значна больш загадкавая асоба, больш філасофскі і шматгранны, чым ён уяўляецца нам па адной рабоце.**

**Таццяна ШЫМУК**

Для таго, каб пазнаёміць жыхароў і гасцей сталіцы з творамі мастака, паказаць іх шматграннасць, папулярызаваць творчасць Казіміра Малевіча на радзіме, у Мінску на плошчы Якуба Коласа адкрылася выстаўка яго рэпрадукцый у межах гарадскога творчага праекта «Мастак і горад. Казімір Малевіч». Пад адкрытым небам размясцілася экспазіцыя 17 работ, сярод якіх «Аўтапартрэт» (1910), «Чорны супрэматычны квадрат» (1915), «Дзяўчына з грэбенем у валасах» (1932) і не ўласцівая пэндзлю мастака «Вясна. Сад у колеры». Кожная работа суправаджаецца тэкставым апісаннем на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай.

Урачыстае адкрыццё выстаўкі стала сапраўдным гарадскім святам, сабраўшы на плошчы Якуба Коласа людзей усіх узростаў. У межах імпрэзы адбыўся фестываль сучаснага мастацтва і паказ авангарднай моды «Мамант», выступілі беларускія творчыя, а таксама музычныя калектывы.

Анастасія Сцёпіна, куратар праекта фонду «Ідэя»:

— Мы свядома выносім мастацтва аўтараў, вядомых ва ўсім свеце, у гарадскую прастору. Па-першае, каб паказаць, што любая вуліца, плошча ці сквер могуць стаць кропкай прыцягнення творчых сіл. Па-другое, гэта ўсё робіцца для таго, каб як мага больш людзей убачылі творы вядомых беларускіх мастакоў, у дадзеным выпадку Казіміра Малевіча, пашырылі сваё ўяўленне пра іх, зацікавіліся — бо ніколі не позна адкрыць сябе мастацтву і адкрыць яго ў сабе.

Зыходныя слайды для выстаўкі далі Дзяржаўная Траццякоўская галерэя (Масква) і Дзяржаўны Рускі музей (Санкт-Пецярбург). Работы выкананы ў стылі імпрэсіянізму, постімпрэсіянізму, кубафутурызму. Рэпрадукцыі заснавальніка супрэматызму будуць упрыгожваць сталіцу да 20 верасня.

— Казімір Малевіч — мастак, філасофія і творчасць якога вызначылі развіццё сучаснага мастацтва, — каменціруе Аляксандр Дземідовіч, намеснік дырэктара па маркетынгу і развіцці СТАА «Атлант-М Фарцойгхандэль», імпарцёра *Volkswagen* у Беларусі. — Падтрымка такога праекта для нас — гэта не проста рэкламная кампанія, гэта акт сацыяльнай адказнасці. Нам важна, каб як мага больш беларусаў лепш даведаліся пра разнапланавую творчасць гэтага вялікага авангардыста».

«Мастак і горад» — сістэмны гарадскі творчы праект. Пры падтрымцы ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама ён рэалізуецца другі год запар. Летась цэнтральнай персаналіяй быў Марк Шагал. У рамках сёлетняга праекта «Мастак і горад. Казімір Малевіч» Музей сучаснага выяўленчага мастацтва адкрыў выстаўку «Малевіч. Свет формы», у экспазіцыі якой прадстаўлены работы сучасных беларускіх аўтараў, створаныя пад уздзеяннем вялікага авангардыста. Выстаўка ўключае ў сябе работы, адабраныя прафесійным журы па выніках конкурсу, у якім узялі ўдзел больш як 60 аўтараў.

# Форум — для навукі і рэлігіі

**У Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя «Хрысціянства ў лёсах народаў Беларусі, Расіі, Украіны: выбар цывілізацыйнага шляху», прысвечаная 1025-годдзю хрышчэння Русі. У якасці арганізатараў гэтага прадстаўнічага форуму выступілі Інстытут гісторыі НАН Беларусі, а таксама Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы.**

**Юзэфа ВОЎК**

Падчас урачыстага адкрыцця міжнароднага форуму прагучала прывітальнае слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Яго зачытаў намеснік прэм'ер-міністра краіны Анатоль Тозік:

— Больш як тысячу гадоў хрысціянства фарміруе агульныя для ўсіх усходніх славян этычныя і эстэтычныя ідэалы, служыць асновай маральных і культурных традыцый. Сёння яно адыгрывае вялікую ролю ва ўмацаванні маральных асноў, прапаведзі адзінства, міралюбнасці і ўзаемадапамогі. Шматгранная дзейнасць праваслаўнай царквы нязменна знаходзіць водгук у беларускім грамадстве. Супрацоўніцтва дзяржавы і Беларускага Экзархата дае магчымасць сумесна рэалізоўваць гуманітарныя праекты, рэстаўрыраваць унікальныя старадаўнія святыні і будаваць новыя храмы.

— Хрышчэнне Русі, гэтая найважнейшая вяха царкоўнай і нацыянальнай гісторыі, стала пачаткам карэннага духоўна-культурнага пералому ў жыцці ўсходнеславянскіх народаў. Прыняцце праваслаўя далучыла нашы народы да вялікай скарбніцы візантыйскай культуры, садзейнічала развіццю пісьменства, мовы і літаратуры. Хрысціянізацыя Кіеўскай Русі стала важным фактарам развіцця дзяржаўнай арганізацыі і палітычнай культуры, прававых адносін і асветы, навуковай думкі і зараджэння нацыянальнай самасвядомасці і духоўнага пераўвасаблення людзей, — падкрэсліў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя.

Праца двухдзённага форуму, што прайшоў у Мінску, была скіравана на асэнсаванне ролі хрысціянства ў сучасным свеце, усведамленне царкоўнага і духоўна-маральнага адраджэння, што назіраецца ў грамадстве цягам апошніх дзесяцігоддзяў, разгляд адметнасцей адзначэння рэлігійных свят у сем'ях, а таксама аналіз асаблівасцей узаемадзеяння дзяржавы і царквы, розных аспектаў успрымання рэлігіі чалавекам XXI ст. Міжнародная навуковая канферэнцыя сталася своеасаблівым пачаткам, адкрыццём цэлага шэрагу юбілейных мерапрыемстваў, што пройдуць у розных гарадах нашай краіны.

# Мой Максім Багдановіч

**Добрай традыцыяй Літаратурнага музея Максіма Багдановіча стала правядзенне конкурсаў сярод школьнікаў, скіраваных на паглыбленае вывучэнне асобы класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.Так, нядаўна прайшлі конкурсы на лепшы музейны лагатып, лепшы акраверш і конкурс малюнка.**

**Таццяна БАРАДУЛЯ**

Сапраўдным святам для музея стала падрыхтоўка і правядзенне конкурсу эсэ «Мой Максім Багдановіч», які быў абвешчаны сярод вучняў 9 — 11 класаў устаноў адукацыі г. Мінска і Мінскай вобласці на пачатку года. Цікавасць да падзеі выявілі і прадстаўнікі з іншых рэгіёнаў краіны, а таксама вучні, якія па ўзроставай катэгорыі не маглі ўзяць удзел у агульным спаборніцтве. За два месяцы з невялікім даслана было больш як 210 прац. Некаторыя ўяўлялі сабой вершаваныя развагі пра лёс Максіма Багдановіча, акравершы ў прозе. Некалькі эсэ было напісана ў форме артыкулаў для энцыклапедыі-«Вікіпедыі» і нават у форме навуковых рэфератаў.

У склад журы конкурсу ўвайшлі вядомыя беларускія літаратары Алесь Гібок-Гібкоўскі, Таццяна Сівец, а таксама супрацоўнікі музея, якія маюць літаратурны досвед, — Міхаіл Бараноўскі і аўтар гэтых радкоў. Узначаліла журы паэтка, кандыдат філалагічных навук, дацэнт філалагічнага факультэта БДУ Ірына Багдановіч.

Аўтарамі трох лепшых работ былі прызнаны Ірына Рушкевіч, вучаніца 10 класа сталічнай гімназіі № 30, Анастасія Іонікава, вучаніца 11 класа сярэдняй школы № 136 г. Мінска, і Наталля Пляшкун, вучаніца 11 класа Мінскага дзяржаўнага абласнога ліцэя.

Конкурс эсэ «Мой Максім Багдановіч» засведчыў тое, што для сучасных юных патрыётаў зорка генія беларускай літаратуры Максіма Багдановіча нязгасная, блізкая. Славуты паэт з'яўляецца для іх «самым шчырым сябрам, асобай, чые перажыванні і надзеі адгукаюцца ў сэрцах і душах», яркім прыкладам служэння свайму народу і змагання за нацыянальныя святыні.

# Разняволенае літаратуразнаўства

**Алена КАРП**

10 чэрвеня ў невялікай аўдыторыі філалагічнага факультэта БДУ можна было назіраць на рэдкасць высокую канцэнтрацыю творчых людзей. Літаратуразнаўцы, фалькларысты, паэты, перакладчыкі, крытыкі, прафесіяналы і аматары прыгожага пісьменства сабраліся дзеля лекцыі Аляксандра Скідана (Санкт-Пецярбург) «Паэтычныя машыны Аляксандра Увядзенскага». Цяжка сказаць, чыё імя больш вабіла і стымулявала слухачоў: даследчыка ці яго аб'екта.

Аляксандр Скідан — паэт, празаік, эсэіст, крытык, перакладчык, рэдактар аддзела часопіса «Новое литературное обозрение». Яго самога ўжо даследуюць і вывучаюць, называючы унікумам, які спалучае рацыянальнасць аналітыка і бесстароннасць крытыка з вытанчаным паэтычным чуццём (Міхаіл Ямпольскі).

Сустрэча ў Мінску абышлася без рэверансаў: кароткае прадстаўленне і прадметная гаворка. Даследуючы творчасць Аляксандра Увядзенскага, іначай і нельга. Ён — аўтар, які прымушаў мову трызніць і імкнуцца да сваёй мяжы. Яго мэтай была дэаўтаматызацыя ўспрымання, іншымі словамі, дэбаналізацыя. Працэс чытання Увядзенскага не можа быць сонным і прадказальным. Ён сумняецца ў кананічнай паэзіі, выпрабоўвае на трываласць і ставіць пад пытанне любыя межы і нават самаго сябе. Гэта той выпадак, калі аўтар і яго даследчык вартыя адзін аднаго.

У сваіх аналітычных тэкстах Скідан набліжаецца і набліжае нас да Увядзенскага вельмі шчыльна, але «ён выслізгвае», прызнаецца даследчык. Максімальна аб'ектыўны філалагічны аналіз — і… няўлоўнасць паэзіі, і вечны пытальнік.

Данііл Хармс казаў, што мастацтва павінна дзейнічаць так, каб праходзіць скрозь сцены. Увядзенскі ў гэта не вераў.

Сцены філфака засталіся ў бяспецы, але мастацтва парушыла такія-сякія межы: слухачам даволася падумаць, ці здольныя і ці гатовыя яны прыняць рызыкоўныя паэтычныя доследы ды легалізаваць іх у сваёй свядомасці, куды ўпісаць яшчэ не асіміляваную як след паэзію абэрыутаў… Урэшце мастацтва трапіла ў сэрцы: чэргі пашыхтаваліся па асобнікі кнігі Аляксандра Скідана «Сума паэтыкі», якія аўтар велікадушна дарыў і падпісваў зацікаўленым.

## Абрысы

Нацыянальны фестываль «Маладзечна-2013» сустракаў беларускіх паэтаў розных пакаленняў. Па дарозе на фестываль творцы завіталі ў Вязынку, каб аддаць даніну памяці творчай спадчыне вялікага Песняра. Каля помніка Янку Купалу гучалі вершы і песні. «Паэтычныя сустрэчы» праходзілі і на музычным падворку Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага. Распачаў творчы рэй паэт, літаратуразнаўца Валерый Максімовіч. Свае вершы чыталі Мікола Шабовіч, Уладзімір Мазго, Іна Фралова, Рагнед Малахоўскі, Віктар Шніп, Валянціна Гіруць-Русакевіч, Анатоль Зэкаў, Ганна Міклашэвіч, Марына Лайкова і Таісія Трафімава. Свае песні маладзечанцам падарылі Дзмітрый Пятровіч і Таццяна Атрошанка, вядучая імпрэзы.

Сёння а 14-й гадзіне ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбудзецца прэзентацыя выстаўкі «Мітрафан Доўнар-Запольскі — даследчык гісторыі трох народаў». Экспазіцыя адлюстроўвае шматгранную навуковую дзейнасць вядомага беларускага гісторыка, этнографа, фалькларыста. ЦНБ НАН Беларусі прадставіце каля 100 дакументаў XVIII — XXI стст. Таксама экспануюцца копіі дакументаў з Санкт-Пецярбургскага філіяла архіва Расійскай акадэміі навук, Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны, Дзяржаўнага архіва горада Кіева, Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Цэнтральнага навуковага архіва НАН Беларусі, якія раскрываюць малавядомыя старонкі жыцця і дзейнасці М. Доўнар-Запольскага.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі атрымала ў дар унікальнае выданне Казіміра Семяновіча — знакамітую працу «Вялікае мастацтва артылерыі» на нямецкай мове, надрукаваную ў Франкфурце-на-Майне ў 1676 г. Да мінулага года ў Беларусі не было ніводнага асобніка выданняў К. Семяновіча XVII ст. У 2012 г. фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўніўся двума першымі выданнямі трактата «Вялікае мастацтва артылерыі» на лацінскай і французскай мовах 1650 і 1651 гг. Усе тры першыя выданні кнігі К. Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі» будуць экспанавацца ў музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 21 чэрвеня.

Свой 70-гадовы юбілей Мікола Чарняўскі адзначыў у студзені. Да земляков жа, у вёску Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна, завітаў напрыканцы мая. Каб можна было палюбавацца на лугі і палеткі далёкага маленства, дакрануцца да тых прысад, у засені якіх некалі стаяла бацькоўская хата. Паэта віталі вучні і настаўнікі мясцовай сярэдняй школы. Словы пра юбіляра сказалі сябры-пісьменнікі Анатоль Зэкаў (Мінск), Валерый Калінічэнка (Масква), Святлана Яблачкіна (Жодзіна), Васіль Ткачоў і Міхась Болсун (Гомель).

На ўспамін пра сустрэчу ў школе засталіся кнігі земляка і творцаў-гасцей. Стос уласных кніг розных гадоў выдання Мікола Чарняўскі падараваў таксама і Буда-Кашалёўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

# Не толькі пра Скарыну

Не так даўно пабачыла свет кніга Івана Штэйнера «“Мудрости зачало и конець…” або Спакушэнне Скарыны». Яна не магла не прыцягнуць увагу літаратурных крытыкаў. Па-першае, у цэнтры ўвагі аўтара постаць самога першадрукара. Па-другое, гэта першы драматургічны твор аўтара — загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі Еўразіі. Ужо ў кнізе змешчаны дзве рэцэнзіі калег Штэйнера з універсітэта.

**Алесь ГАЙДУК**

Літаратуразнаўцы перш за ўсё адзначаюць арыгінальную форму п'есы. Вось што піша кандыдат філалагічных навук дацэнт Таццяна Аўдоніна: «Чытач, які звыкся з класічным вобразам Францыска Скарыны і гістарычным антуражам яго эпохі праз літаратурна-мастацкія творы па беларускага асветніка і ведае Скарыну ў традыцыйным гісторыка-культурным кантэксце, будзе проста збянтэжаны новай літаратурнай інтэрпрэтацыяй. У п'есе Івана Штэйнера ўсё незвычайна: архітэктоніка, вобразы, кантэкст, мова. Хто б мог падумаць, што гэту кананічную глыбу можна перанесці ў сферу інтэртэкстуальнасці, пастыша, гратэску?!»

Не толькі форма падачы, а і ўвесь так званы мастацкі інструментарый, асабліва калі ён мае наватарскі і эксперыментальны характар, апраўдвае сябе толькі ў тым выпадку, калі дапамагае аўтару пераканаўча і наглядна давесці чытачу і гледачу сваю галоўную ідэю. У іншым выпадку п'еса становіцца абсурдным і нізкапробным прадуктам. У чым гэтая ідэя, ці змог І. Штэйнер дасягнуць сваёй мэты, наколькі быў апраўданы гэты інструментарый, мы і паспрабуем разабрацца.

Рэцэнзенты выказваюць думку, з якой нельга не згадзіцца, але якая можа прывесці да абмежаванасці ва ўспрыманні п'есы. Т. Аўдоніна піша:

«Драму Штэйнера немагчыма аднесці да якога-небудзь з вядомых жанраў як літаратурных, так і сцэнічных. Ярка выражаная пазнавальнасць тэкставага матэрыялу дае падставу разглядаць п'есу як тэатралізаваную лекцыю». Да падобнага меркавання схіляецца доктар філалагічных навук, прафесар Ігар Жук:

«Я ўзіраюся ва ўсё гэта шыкоўнае містэрычнае дзейства і згадваю феномен так званай «школьнай драмы» ў гісторыі беларускай драматургіі…

Вось і цяпер універсітэцкі прафесар узяў у рукі зусім не ўказку дыдактычную, не. Ён макнуў у чарнільніцу вялікай мастацкай традыцыі сваю дыдактычную асадку і па шкалярскай завядзёнцы прапанаваў на самастойнае разважанне п'есу».

Аднак І. Штэйнер скарыстаўся не толькі і не столькі «дыдактычнай асадкай». Пазнавальнасць п'есы відавочная, але яна не з'яўляецца галоўнай аўтарскай мэтай.

Калі Т. Аўдоніна ацэньвае твор па традыцыйных крытэрыях, то І. Жук спрабуе нейкім чынам пранікнуць у яго містычнасць:

«Адваротнасць, карнавальная перакуленасць (г. зн. такое бачанне рэчаіснасці, калі глыбіннае, «падспуднае», выходзіць напаверх з шумным і шматгалосным, некантралюемым парыванні) вызначае сутнасць драматургічнай калізіі ў гэтым творы. Тут усё, як і належыць карнавалу, увабрана ў маскі.

Маска — Скарына, воблік якога, паводле аўтарскай рэмаркі, мяняецца на працягу спектакля…

Маска — сакратарка «Бялянка». Як сапраўдная сакратарка, яна ведае ўсё. Гэтакі прарочы дар абсалютнай дасведчанасці ў часе і прасторы..

Маска — знаныя персанажы сусветнай гісторыі: Парацэльс, Лютэр, Эразм Ратэрдамскі…

Маска — сама сцэнічная прастора. Як імітацыя шырокага вірлівага праспекту карнавальнага шэсця…

І нават аўтар — маска. Ён наймысна сваёй маскай забаўляецца…»

Ні ў якім разе не збіраемся аспрэчваць думку рэцэнзента, тым больш што яе неабходна разглядаць у кантэксце ўсяго артыкула, толькі з пазіцыі нашай І. Штэйнер якраз і спрабуе сарваць маскі з тых, хто, не маючы хрысціянскай веры, моліцца іншым ідалам. А неадпаведнасць заяўленых вобразаў іх класічнаму аналагу тлумачыцца спробай драматурга паглядзець на іх вачыма сучаснікаў з пазіцыі матэрыяльнай выгады. Ад гэтага ўзнікае немалы сатырычны эфект.

Урэшце, звернемся да самой п'есы. Назва яе павінна настроіць чытача на пэўны лад. «“Мудрости зачало и конець…” або Спакушэнне Скарыны». Лагічна меркаваць, што менавіта пра спакушэнне і пойдзе размова. Але ў якім кантэксце? У кантэксце Новага Запавету, дзе ў пустыні Сатана спакушае Хрыста? А можа, як пра здзейснены факт спакушэння ва ўяўленні драматурга? Магчыма, размова ў п'есе пойдзе пра спакушэнне вобразам асветніка. Узяўшы пад увагу гэтыя пытанні, паспрабуем паглядзець на твор.

Сэнс жыццёвага шляху Францыска Скарыны ўвогуле немагчыма ўявіць і растлумачыць, не ўлічыўшы тое, што ён быў сапраўдным хрысціянінам. Таму калі мы пачынаем размову пра спакушэнне, то не можам адмаўляць дзейнасць д'ябальскіх сіл. У дадзеным выпадку прысутнасць іх становіцца неабходнай. Калі на сцэне з'яўляюцца Блазан і Звяздар, яны даюць свае рэкамендацыі: «Двоякая правда: божия и человечия. Двоякий суд: божий и человечий. Двоякая похвала: от Бога и от человек». Адпаведна задачам палярызацыі перад пісьменнікам паўстаюць праблемы раздзялення дабра і зла, праўды і маны, пакарання і пакаяння.

І. Штэйнер разумее гэта і імкнецца, раскрываючы погляды дзеючых асоб і іх жыццёвыя прынцыпы, стварыць двухполюснае супрацьлеглае жыццёвае поле. І чым больш энергіі на абодвух полюсах, тым больш разрад. На адным полюсе Скарына, які шчыруе над будучым Радзімы, ахвяруючы сваім дабрабытам. А на другім — д'ябальскі скептыцызм.

У з'яве другой:

«Звяздар. Пазбавіцца раз і назаўсёды праклятага беларускага, якое ўвайшло ў нашу кроў і ў нашы гены, на нашым сметніку ніколі нічога не было і не будзе, усё толькі ў людзей, а ў нас — адны балоты і каўтун у валасах ды гузы на руках ад спрадвечнай працы».

Асаблівую нянавісць Сатаны, выяўленую ў словах людзей з атачэння Скарыны, выклікае імкненне беларусаў стаць адукаванымі, мець сваіх выкладчыкаў.

Паказальным у гэтым плане падаецца расповед пра Смаргонскую акадэмію. Гэта жартоўная назва промыслу лоўлі і дрэсіроўкі мядзведзяў, наладжанага князямі Радзівіламі ў Смаргоні. Дык вось, Бялянка даводзіць, што беларусы больш ні на што не здольныя. На аповед пра жорсткія прымусовыя метады дрэсіроўкі Скарына рэагуе з усмешкай, маўляў, і цяперашніх студэнтаў так вучаць лічыць, дзяліць, пісаць дыктоўкі, здаваць іспыты. Смяецца, маўляў, а што, добрая справа, адукацыя заўсёды карысная. Сур'ёзны ж адказ гучыць за сцэнай: «Не кляні цемру — лепш запалі свечку. Як сказаў Канфуцый».

Першыя тры з'явы п'есы расказваюць, як ідзе падрыхтоўка да сходу скарынаўскай кампаніі ў сучасным уяўленні. Без усведамлення таго, што гэта за фірма і што за акцыянеры павінны сабрацца, цяжка зразумець, што адбываецца і што будзе адбывацца. З самага пачатку мы даведваемся, што Скарына хоча прапанаваць акцыянерам нейкі надзвычайны праект:

«Скарына: Мой праект, да якога я ішоў усё жыццё, з нараджэння, з юнацтва, са сталасці… Гэта справа, я ўпэўнены, мае выключнае значэнне не толькі для мяне, яна анталагічная, як ты сказала, для маёй Радзімы. Яе рэалізацыя стане выключнай надзеяй для велізарнага абшару, дзе змяніцца традыцыйны ўклад жыцця, і я буду садзейнічаць нараджэнню новай еўрапейскай нацыі. Можа, нават маё імя стане бессмяротным, як і мая справа».

Можна здагадацца, што праект Скарыны — выданне Біблii. Падставай для гэтага паслужыць дыялог з Эразмам Ратэрдамскім. Але строіць здагадкі — справа няўдзячная. І мы адштурхнёмся ад таго, што ёсць, і будзем успрымаць праект як намінальную ідэю.

Бліжэй за ўсіх да ісціны прафесар І. Жук, якога мы ўзгадвалі вышэй. Дык вось ён справядліва сцвярджае: «Ой, не пра Скарыну гэты твор, не пра Скарыну… Па меры таго, як заглыбляешся ў пласты тэксту, духоўных парэзаў ад п'есы ўсё больш і больш…»

Справа ў тым, што І. Штэйнер ідзе на вельмі рызыкоўны крок, паказваючы вядомых гістарычных асоб у гіпертрафіраваным выглядзе вачамі сучаснікаў, для якіх ідаламі сталі матэрыяльныя каштоўнасці. І да чацвёртай з'явы Скарына знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. Ён як бы становіцца аб'ектам мадэлявання нацыянальнага героя. У сучасным уяўленні гэта можа быць палітык, магнат, пра імідж якога трэба клапаціцца яго піяршчыкам. Вы спытаецеся, у чым тут рызыка. У тым, што І. Штэйнер можа быць незразумелым, а створаны новы вобраз Скарыны прыняты за чыстую манету. Пра задуму аўтара на працягу п'есы змяніць погляды скептычнага гледача да вобраза Скарыны мы пагаворым ніжэй. Пакуль жа звернемся да п'есы і паглядзім, як Бялянка рэжа «праўду матку» пра стан людзей, заклiканых несці святло навукі, выхоўваць суайчыннікаў на лепшых узорах духоўнай культуры. У новым праекце яе цікавіць, ці прынясе ён багацце: «…Толькі брахуны, дурні і вар'яты могуць сцвярджаць, што можна быць шчаслівым і свабодным, жывучы ў галечы. Ці будзе пан багатым філасафам, які на раскошнай віле разважае і сумна ўздыхае над марнасцю марнасцей, суетой сует, vanitas vanitatum et vanitas???»




І гэта не адзінае «мудрае» выказванне сакратаркі. Тым не менш аўтару ўдаецца, няхай і праз выказванні далёка не станоўчай гераіні, паказаць, што вялікае жаданне абагаціцца і самаўпэўненасць для многіх абарочваецца нічым. Як кажуць, а кароль голы!

Пачынаючы з чацвёртай з'явы да Скарыны наведваюцца людзі, якія спрабуюць яго спакусіць, адгаварыць займацца асветніцкай дзейнасцю на карысць спраў, якія прынясуць вялікія грошы або дастатковую матэрыяльную дапамогу ад правіцеляў, славу. Сатана прымае чатыры аблічы: бацькі Скарыны Лукі, філасофа, урача, прафесара медыцыны Базельскага ўніверсітэта, алхіміка Парацэльса, доктара багаслоўя ў Вітэнбергскім універсітэце, заснавальніка нямецкага пратэстантызму — лютэранства Марціна Лютэра і мысліцеля, гуманіста, пісьменніка, багаслова Эразма Ратэрдамскага.

Лука Скарына прапануе сыну працягнуць купецкую справу, ён ужо «назбіраў стартавы капітал». Францыск пры яго таленце, адукацыі, сувязях змог арганізаваць гандаль па ўсёй Еўропе, стаць вельмі багатым чалавекам. Парацэльс прыходзіць з ідэяй наладзіць вытворчасць лекаў і запрашае Скарыну ў кампаньёны. Гэта «надзвычай выгадна для ўласнай кішэні», «дазволіць стаць багатым і ўплывовым». Марцін Лютэр малюе перавагі сваёй веры і запрашае далучыцца да яе. Эразм Ратэрдамскі ўвогуле заклікае да веры у Бога аднасіцца па-філасофску. Біблія для яго толькі дапаможнік для спасціжэння мудрасці, а Скарыну ён бачыць толькі як філасафа.

Пры знаёмстве з дзеючымі асобамі І. Штэйнер піша:

«Скарына Францыск — полацкі купец, былы студэнт еўрапейскіх універсітэтаў, доктар лекарскіх навук. Класічнае аблічча, да якога ўсе звыкліся, набывае толькі ў канцы дзеяння: воблік мяняецца на працягу ўсяго спектакля». Паводле задумы аўтара — па меры інфармацыйнай насычанасці і перавасаблення, а не духоўнага росту. Таму з'яўляецца праблематычным апраўдаць стварэнне іншага вобраза Скарыны ў пачатку п'есы, калі, напрыклад, ён угаворвае Бялянку застацца працаваць у кампаніі, абяцаючы ёй залатыя горы, або заўзята клапоціцца пра свой імідж.

Апошняя, восьмая, з'ява напісана на высокай грамадзянскай ноце. Дыялогі ў большай ступені носяць форму звароту да слухача і гледача. Акрэсліваючы велічнасць і значнасць дзейнасці Скарыны, адзін з герояў п'есы, Звяздар, гаворыць, што асветнік даў народу надзею: «Але без гэтага не было б Беларусі, ніколі б не было нас у цяперашнім разуменні. Не было б народа. Нашай дзяржавы, нашай культуры, якая еўрапейскай і якою трэба ганарыцца, а не саромецца яе. І нам трэба схіліць галаву перад вялікім сынам народа, які ў надзвычай цяжкіх умовах «не просил еси собе дней многих, ни богатства, ниже душ врагов твоих, но жаждал еси собе мудрости..»

Знамянальна, што апошнім госцем Скарыны стаў Вольны мастак, які дапамагаў Францыску ў афармленні кніг як сімвал свабоды і творчасці. Толькі маючы свабоду, чалавек можа праявіць свае творчыя здольнасці і талент, дараваны яму Усявышнім, апраўдаць сваё існаванне на Зямлі. Толькі часта шлях да гэтага ляжыць праз вялікія пакуты і выпрабаванні. Апошняя фраза можа збянтэжыць чытача: «Дык хто ж ён такі? Дурань? Святы?! Мудрости зачало иль конец?» Пытанне чыста намінальнае, бо п'еса дае вычарпальны адказ на яго, але яшчэ раз запрашае паглядзець на сябе і падумаць, што б сказаў сёння Скарына пры сустрэчы.

# Як пераўтвараюцца сюжэты

**Алена МІКУС**

У сучасным літаратуразнаўстве ёсць ідэя, згодна з якой эпоха пісьменства выкарыстала патэнцыял тэм і сюжэтаў. Іншымі словамі, усё, што можна было сказаць, ужо сказана, усё, што можна было напісаць, ужо напісана. Што ж засталося творчым людзям, народжаным у гэту эпоху развітай культуры і даступнасці інфармацыі пра яе? Чытаць Уільяма Шэкспіра, Фёдара Дастаеўскага і Уладзіміра Караткевіча? Не толькі. Ёсць таксама варыянт сінтэзаваць вынайдзенае, фантазіраваць на аснове вядомых сюжэтаў, інтэрпрэтаваць. І тут адкрываецца прастор для творчасці.

Не сакрэт, што сучасная культура актыўна сілкуецца сюжэтамі мінулага. Гісторыя, міфалогія, рэлігія, фальклор маюць мноства адпраўных пунктаў для нараджэння задумы. Гэта выдатна адчуваюць аўтары, якія працуюць на тэрыторыі формульнай (масавай) літаратуры. Кінарамам Максіма Клімковіча і Уладзіміра Сцяпана з гучнай назвай «Тэолаг» у якасці вектараў сюжэтамадэлявання выкарыстоўвае рэлігію і гісторыю. Дзякуючы гэтаму ў тэксце намячаецца два полюсы. Першы — містычны — вырастае з фантазіі над біблейскім сюжэтам пра Маісеевы скрыжалі, на якіх высечана дзесяць Божых запаветаў. Другі — дэтэктыўны — бярэ за аснову гістарычную згадку пра адступленне Напалеона Банапарта і шматлікія легенды пра пакінутыя ім на тэрыторыі Беларусі скарбы.

Тут дарэчы згадаць пра даніну традыцыі — яшчэ з часоў У. Караткевіча — выкарыстоўваць гістарычны складнік у канструяванні дэтэктыўных сюжэтаў. Адсюль зразумела, што М. Клімковіч і У. Сцяпан не чужыя рамантычнай рэцэпцыі вобраза Беларусі як краіны неразгаданай, гісторыя якой хавае шмат неданследаваных таямніц. Адна з іх сцвярджае, што пры адступленні падчас пераправы праз раку Бярэзіну імператар Банапарт пакінуў тут нарабаваныя скарбы. Падобны гістарычны факт арганічна падыходзіць для стварэння дэтэктыўнай інтрыгі. Тэкст «Тэолаг» выдатна выкарыстоўвае гэты патэнцыял для арганізацыі фабулы крымінальнага дэтэктыва: скарбашукальнікі імкнуцца знайсці нарабаванае, на іх палюе гвардзеец у напалеонаўскім мундзіры, адбываецца шэраг таямнічых забойстваў, іх расследаванне, а таксама продаж прадметаў культу Х стагоддзя калекцыянеру з цьмяным мінулым. Такім чынам, выразна мадэлюецца лінія крымінальнага сюжэта.




Тэкст можна было б запісаць у шэраг крымінальных дэтэктываў. Аднак яго лагічную лінію дапаўняюць ірацыянальныя элементы, якія ад пачатку твора даюць чытачу зразумець, што справа не толькі ў забойстве людзей, звязаных з тэмай напалеонаўскага скарбу. У невялікім беларускім горадзе Барысаве адбываюцца містычныя падзеі. Спачатку пра іх сказана намёкам, неўпрыкмет — праз стварэнне атмасферы недаказанасці, увядзенне шэрагу персанажаў, сюжэтаў, якія з'яўляюцца тыповымі для жанру містычнага трылера. Гарыць невядома кім падпалены крыж. У мястэчка з таямнічай місіяй наведваецца дарадца Ватыкана доктар Павел Кардонскі. На барыслаўскім кірмашы гандлюе псеўдаантыкварыятам дзівак астролаг, які прадказвае хуткі канец свету. Далей у Барыславе з'яўляецца фігура з мінулага: інфернальнага выгляду чалавек. Як сведчыць даўняе фота часоў вайны, што атрымаў краязнаўца, ён быў у атачэнні Адольфа Гітлера. Гэта выглядае неверагодна і выбіваецца з логікі лінейнасці часу. Так намячаецца лінія містычнага трылера, якая ў спалучэнні з падзеямі расследавання забойстваў дае вострасюжэтны твор.

Чытач не можа прадказаць, у якім напрамку адбудзецца разгадка таямніцы: у рацыянальным або містычным. Адказ даецца толькі напрыканцы тэксту, калі скарбам аказваюцца не рэальныя прадметы культу з рызніцы Усясветнага патрыярха, а д'ябальскія залатыя скрыжалі. Так М. Клімковіч і У. Сцяпан дапаўняюць біблейскую легенду пра каменныя скрыжалі Маісея, канструюючы гіпотэзу пра наяўнасць і залатых скрыжаляў, створаных Д'яблам. І той, хто ўладарыць імі, уладарыць светам.

Так узнікае новы сюжэт, новы тэкст, новы фільм…

Паводле рамана зняты 12-серыйны серыял «Марго. Вогненны крыж». Адметна, што ў ім ролю высакароднага таямнічага тэолага Паўла Кардонскага бярэ на сябе жанчына-дэтэктыў — пісьменніца Варвара, якая расследуе містычную гісторыю. Так эксклюзіўны варыянт героя-дэтэктыва, створаны беларускімі аўтарамі, заменены (не без згоды тандэма стваральнікаў) растыражаваным вобразам, што сышоў са старонак кніг Д. Данцовай. Пасля прачытання рамана М. Клімковіча і У. Сцяпана глядзіцца тое каларытна — з іроніяй і поўным адчуваннем эстэтыкі абсурду, што чарговым разам падкрэслівае: у XXI стагоддзі змяняецца ўсё. І змены гэтыя непрадказальныя.

# На скрыжаванні культур

На вокладцы кнігі Таццяны Кабржыцкай і Усевалада Рагойшы «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі» пазначана: «Вучэбны дапаможнік». Сапраўды, кніга рэкамендавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасцях «Славянская філалогія», «Беларуская філалогія», «Руская філалогія». Здавалася б, выданне, выпушчанае Выдавецкім цэнтрам БДУ, вузкаспецыфічнае. Ды толькі не будзем забываць пра вядомае выказванне: вучыцца ніколі не позна. У тым сэнсе, што новыя веды лішнімі не бываюць, неістотна, у якім узросце яны набытыя.

**Ягор ТАРАСІК**

На карысць таго, што з гэтым выданнем не лішне пазнаёміцца ўсім, хто, як сказана ў анатацыі, «цікавіцца лёсам славянскіх культур, вытокамі роднага слова, своеасаблівасцямі развіцця нацыянальных літаратур», сведчыць яшчэ і тое, што згаданая кніга сапраўды сарыентавана на куды больш шырокага адрасата, чым заяўлена. Адбываецца гэта не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што Т. Кабржыцкая і У. Рагойша, па-навуковаму падыходзячы да асэнсавання заяўленай тэмы, хоць і прытрымліваюцца строгага акадэмізму ў падачы фактычнага матэрыялу, стараюцца пісаць так, каб гэта было цікава кожнаму, хто раскрые іх кнігу.




Дарэчы, яна будзе складацца з трох частак. Пакуль што пабачыла свет толькі першая. У ёй змешчаны «агляд гісторыка-літаратурных меркаванняў і тэарэтычных абагульненняў, звязаных з культурай і літаратурай украінскага і беларускага народаў перыяду глыбокай старажытнасці і Сярэднявечча».

У сваю чаргу першая частка складаецца з пяці раздзелаў. Кожны з іх, з'яўляючыся вычарпальным па змесце, адначасова з іншымі выстройваецца ў свайго роду ланцуг, звёны якога вядуць да больш глыбокага спасціжэння і асэнсавання прадмета гаворкі, дазваляючы ўбачыць цэласную карціну не толькі ў разрэзе пэўнага часу, але і з выхадам на новыя далягляды, да якіх даследчыцкая думка аўтараў спрычыніцца ў наступных частках кнігі.

У першым раздзеле «Нашы карані» асэнсоўваюцца працэсы фарміравання праславянскіх народаў. Пры гэтым прапануюцца як ранейшыя версіі, так і сучасны погляд на праблему. Славянскае Сярэднявечча разглядаецца ў агульнаеўрапейскім кантэксце, а літаратурныя традыцыі Кіеўскай Русі аналізуюцца такім чынам, што ўлічваюцца асаблівасці хрысціянізацыі, уплыву культуры іншых народаў. У гэтым жа раздзеле шырока прадстаўлены і матэрыялы, якія датычаць перыяду з XIII па XVII стст.

Назва другога раздзела (ён, як і першы, напісаны з удзелам кандыдата філалагічных навук Э. Дзюкавай) гаворыць сама за сябе — «Украінцы і беларусы ў сям'і народаў Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага». Значная ўвага ў гэтым раздзеле нададзена палемічнай літаратуры як культурнай спадчыне двух братніх народаў — украінцаў і беларусаў. Не абыдзеныя ўвагай і скрыжаванні культурных традыцый Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ў паломніцкім жанры на мяжы XIV — XVII стст. Асабліва шмат матэрыялу для роздуму дае падраздзел «Мялецій Смятрыцкі як змагар за «прымірэнне Русі з Руссю»: сучасная рэцэпцыя праблемы».

Найбольш звязаныя між сабой раздзелы «Славутыя кіевамагілянцы на скрыжаванні еўрапейскіх культур у XVII — XVIII стст.» і «Драматургія кіевамагілянцаў». Заключны ж, пяты, раздзел — гэта, па сутнасці, міні-манаграфія ў кнізе. У ім упершыню ў Беларусі комплексна разглядаецца творчая спадчына ўкраінскага пісьменніка і філосафа Грыгорыя Скаварады. Пра ўнікальнасць яго асобы сведчыць тое, што ва Украіне Г. Скавараду называюць Любамудрам.

Між іншым, і ў другім раздзеле аўтары кнігі шмат у чым засведчылі сябе першапраходцамі. Напрыклад, у падраздзеле «Іван Мазепа: гістарычныя і літаратурныя парадоксы мнагаліκасці гетмана» яны разгледзелі розныя канцэпцыі і падалі асобу І. Мазепы ў кантэксце еўрапейскага літаратурнага працэсу. Разам з тым зірнулі на знакамітага гетмана і як на аб'ект рамантычнага ідэалізавання, а таксама як на непасрэднага (ці гіпатэтычнага) аўтара мастацкіх твораў. Гэта тым больш важна, што раней постаць І. Мазепы была празмерна ідэалагізавана, што, безумоўна, не дазваляла даведацца пра тое, якое дачыненне ён мае да ўкраінскай культуры, а таксама пра яго ўплыў на культуры іншых народаў, у прыватнасці, беларускага.

Гаворку па тэме «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі» Т. Кабржыцкая і У. Рагойша працягнуць у дзвюх наступных частках сваёй кнігі, адпаведна звяртаючыся да творчасці найбольш знакамітых украінскіх пісьменнікаў XIX — пачатку XX стагоддзя і вывучаючы асноўныя з'явы літаратурнага жыцця Украіны ў XX — пачатку XXI стагоддзя. Зразумела, што, як і ў першай частцы, усё будзе асэнсоўвацца на фоне аналізу кантактна-тыпалагічных сувязей украінскага і беларускага пісьменства.

Так што чытайце першую частку кнігі «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі» і не прамініце з'яўлення другой і трэцяй.

# Крыштальнасць пачуцця

**Мікола ШАБОВІЧ**

Вольгу Шпакевіч ведаю даўно, яшчэ з часоў вучобы ў Мінскім педінстытуце імя М. Горкага. Яна была актыўнай удзельніцай факультэцкага літаратурнага аб'яднання «Крыніцы», яе вершы рэгулярна змяшчаліся ў інстытуцкай шматтыражцы і краналі сваёй шчырасцю, любоўю да Радзімы і яе слаўнай гісторыі.

*Не сорам, што капаюць слёзы*
*На брэсцкі расплаўлены камень,*
*Нічога, што пройдзе марозам*
*Па целу Хатыні гучанне.*

*Было б толькі шчырасці болей,*
*Душэўнае шчодрасці троху,*
*Каб здолець любіць аж да болю*
*Бяроз уцалелую тройку.*

Гэта радкі дзяўчынкі-студэнткі Вольгі Шпакевіч, якія і сёння здзіўляюць сваёй чысцінёй. Калі я сустракаў Вольгу праз многія гады пасля заканчэння нашай альма-матар, па памяці цытаваў ёй гэтыя верш. Вельмі спадзяваўся, што настаўніцкія будні і мацярынскія клопаты не змогуць заглушыць у пяшчотнай душы імкненне да паэтычнага самавыяўлення, бо талент выразна адчуваўся нават па першых яе творах. І таму быў вельмі ўзрадаваны, калі напрыканцы мінулага года атрымаў у падарунак першую паэтычную кнігу В. Шпакевіч «І тку жыцця сувоі» з маім любімым вершам пра расплаўлены камень і іншымі таленавітымі творамі самага рознага гучання — ад пранікнёных высокапатрыятычных радкоў пра вернасць бацькоўскаму кутку і Бацькаўшчыне да самых пяшчотных вершаў пра каханне.

Нямала ў кнізе і пейзажных замалёвак, якія вызначаюцца крыштальнасцю малюнка і крыштальнасцю пачуцця. Як, да прыкладу, у вершы «Крыштальнае»:

*Я п'ю крыштальнае паветра,*
*Крыштальным возерам іду,*
*І што ні дрэва — белы ветразь*
*Глядзіцца ў снег, як у ваду.*

*Па цаліку кладу сцяжынку,*
*Кругом святло, як ні зірні.*
*Люблю я кожную сняжынку*
*За непадкупнасць чысціні…*

Вельмі прадуманай падаецца і кампазіцыя першай кнігі паэтэсы. Назвы раздзелаў гавораць самі за сябе: «На Радзіме яснейшыя зоркі», «Я сам-насам з вялікім Тварцом», «Я — пясчынка на дне акіяна», «Нас вясёлкай злучылі нябёсы», «Гаючы мой блакіт» і інш.

Зборнік «І тку жыцця сувоі» насычаны вобразнымі сродкамі. Паэтэса нярэдка звяртаецца да свежага слоўца, у тым ліку ўласна аўтарскага: *сонцаграй* фарбаў, *вяснуе* каханне, *снежыць* зіма, *старасценны* Кракаў, *зазімець* (*Зазімела ізноў, зазімела…*). Даволі ўдалымі, цікавымі падаюцца і прыметнікі-кампазіты, якія таксама маюць аўтарскі статус. У асобных вершах метафорыка радка проста зашкальвае, нагадваючы футурыстычныя эксперыменты 20-х гадоў мінулага стагоддзя…

Калі казаць пра недахопы кнігі, то іх не так і шмат. Часам паэтэса не пазбягае недакладных рыфмаў: *сонца — маркоціцца, мова — дома, дай — зла, чарга — грахах*. Ёсць і моўныя агрэхі. «*Тры крокі ад ложка к акну…*» Лепш было б *да акна*. «*Дзе з табой мы ні раз не былі*». А трэба *ні разу*. Не зусім апраўданы, відаць, аднолькавыя назвы розных вершаў: «Верш на зададзеную тэму» (с. 5 і с. 51) і «Светлай памяці Ф. М. Янкоўскага» (с. 35 і с. 41).

І ўсё ж не можа не радаваць тое, што паэтэса адчувае сапраўдную асалоду ад творчасці. Яна актыўна ўдзельнічае ў літаратурным жыцці сталіцы, выступае з новымі творамі на самых розных імпрэзах. Яе вершы з'яўляліся ў «ЛіМе», друкаваліся і друкуюцца ў калектыўных зборніках.

Канстанцін НІЛАЎ



Аўтар трох паэтычных кніг і аднаго празаічнага зборніка Канстанцін Нілаў — прызнаны паэт-песеннік. У супрацоўніцтве з беларускімі кампазітарамі Ігарам Лучанком, Валянцінай Сярых, Сяргеем Новікам і іншымі напісаў больш як пяцьдзясят песень. Лаўрэат усесаюзнага і рэспубліканскіх літаратурных конкурсаў. У 2010 годзе атрымаў першае месца і «Залаты Купідон» за песенны цыкл «Вянок Беларусі». Чытачам «ЛіМа» прапануюцца новыя вершы з гэтага цыкла.

## Мая спадчына

*Зорныя лясныя журавіны,*
*Цёплая вясенняя ралля:*
*Мілая, любімая Айчына,*
*Бацькаўшчына светлая мая.*

*Альтанка птушыная ўзлесся,*
*Ласкавы першы майскі гром, —*
*Спадчына мая жыве ў песнях,*
*Што спявала маці за сталом.*

*Спадчына мая у белым храме*
*Квеценню вясёлкі маладой,*
*Спадчына у небе жураўлямі —*
*Над маёй краінай дарагой.*

*Белыя высокія аблокі,*
*Неба, што не знае берагоў, —*
*Тут — крыніц*
*празрыстыя вытокі,*
*Тут вытокі мовы дарагой.*

## Мая Белая Русь

*Жытнёвае поле,*
*снег чысты рамонкаў,*
*Блакіту марскога,*
*лясоў далягляд, —*
*І гэта — мая дарагая старонка,*
*Дзе Белаю Руссю завецца зямля.*

*Куды б мяне лёс*
*ні кідаў на ўскраі,*
*Да хаты радзімай*
*вярнуся пасля,*
*Сюды не дарма*
*і буслы прылятаюць,*
*Дзе Белаю Руссю*
*завецца зямля.*

*Ты, Белая Русь —*
*край зялёных прадвесняў,*
*Край зор партызанскіх*
*і славы бацькоў,*
*Ты, Белая Русь —*
*бессмяротная песня,*
*Што к нам прылятае*
*на крылах вякоў.*

## Да суседкі дзед хадзіў

*Да суседкі дзед хадзіў:*
*Боб з гарохам малаціў, —*
*Ніжэй лаўкі і травы,*
*Называўката на «вы».*

*Ой, дзядуленька-дзядок,*
*Чаго цягне ў гэты бок?..*
*Чарнабровая суседка —*
*Не твая, дзядуля, кветка.*

*Да суседкі дзед хадзіў:*
*Боб з гарохам малаціў, —*
*У вячэрах ведаў смак,*
*Апранаў заўжды пінжак.*

*Да суседкі дзед хадзіў:*
*Боб з гарохам малаціў, —*
*Толькі каб было не дарам,*
*Націраў бок шкіпінарам.*

*Да суседкі дзед хадзіў:*
*Боб з гарохам малаціў, —*
*Ды застаўся начаваць*
*На гадкоў так... дваццаць пяць.*

*Ой, дзядуленька-дзядок,*
*Чаго цягне ў гэты бок?..*
*Чарнабровая суседка*
*Зацвіла, як ружа-кветка…*

## Човен кахання

*Золак кратае роснай дубровы*
*Галасістыя птушыны раяль, —*
*Што шукаеш,*
*блакітны наш човен,*
*Сярод ранішніх*
*срэбраных хваль.*

*Лёгкі смутак душы і трывога*
*Заляцяць на пясчаны абрыў,*
*Мілы човен кахання былога,*
*З кім ты сёння радніцца рашыў?*
*З кім ты сёння радніцца рашыў?*

*І згубілася ў полі сцяжынка,*
*Што калісьці тапталі з табой,*
*Вербалоз невысокай галінкай*
*Страпянуўся за нашай спіной.*

*Датыкнуцца да ног ціха хвалі,*
*Пабягуць у прасторы вады,*
*Што з табою яшчэ не сказалі,*
*Што змаўчалі з табою тады…*

*Лёгкі смутак душы і трывога*
*Заляцяць на пясчаны абрыў,*
*Мілы човен кахання былога,*
*З кім ты сёння радніцца рашыў?*
*З кім ты сёння радніцца рашыў?*

## Што, сяброўка, ты зрабіла?

*Што, сяброўка, ты зрабіла*
*Каля рэчкі, дзе хадзіла,*
*Кветкі раннія ірвала*
*Ды у сэрцы*
*грэх свой ткала?*

*Каля рэчкі, дзе хадзіла, —*
*Майго мілага спыніла,*
*Усміхнулась, падміргнула*
*Ды у сеткі зацягнула…*
*Ой, сяброўачка, сяброўка,*
*Апякла душу агнёўкай,*
*Папярок дарогі стала,*
*Не свайго ж ты абдымала.*

*Што, сяброўка, міма крочыш*
*І хаваеш сёння вочы?*
*У сяброўкі шчасце крала,*
*Не свайго ж ты абдымала.*

*Каля рэчкі, ля затокі,*
*Там знаёмыя зноў крокі, —*
*Вербаў коцікі ламае,*
*Каго мілы мой чакае?..*



Фота Кастуся Дробава

Ганна ЧУМАКОВА



### ***

*Ложак гарачы, нібыта пекла…*
*Коўдра скамячаная ў куце…*
*Вусны асмаглыя ловяць паветра,*
*Быццам бы хтосьці яго крадзе…*

*Пёркі,*
*пясчынкі нясцерпна колюцца,*
*Прарасці, мабыць, збіраюцца праз…*
*Побач*
*каханка мая — бяссонніца —*
*Моліцца на абраз…*

*Поўня — вымачаны ў смятане*
*Жоўты,*
*тлусты,*
*гарачы блін…*

*Хутка світанне…*
*Калі ўжо світанне?!.*
*Думкі-справамі —*
*Клінам-клін…*

### ***

*А мне сказалі па радыё,*
*Што ўсе мусяць быць добрымі,*
*І я ад самага рання*
*Пасміхалася, як ненармальная.*

*А людзі неяк нярадасна*
*Моўчкі спяшалі па горадзе,*
*Наступаючы, бы спецыяльна,*
*На ногі мне ў трамваі.*

*Яны ж, напэўна, не чулі,*
*Таму ніякіх прэтэнзій*
*І крыўдаў ніякіх*
*Я да людзей не маю…*

*І толькі адна бабуля,*
*Якой я торбу паднесла,*
*Ціха сказала: «Дзякуй!»*
*І мандарынкай пачаставала.*

*Мандарын узыходзіць над горадам —*
*Сёння ўсе мусяць быць добрымі…*
*Сёння ўсё будзе добра!..*

### ***

*Калі я стала старэйшай за маці*
*У разуменні сутнасці рэчаў,*
*Абрыдла верыць у цуд і чакаць*
*І ўвесь час карцела кудысьці бегчы:*

*На працу, дадому — куды-небудзь,*
*Абы не па тым жа самым маршруце.*
*Звар'яцела-Я — бачыла Неба,*
*Заклапочана-Я — казалі людзі.*

*І ў гэтым адвечным руху па коле*
*Хворай свядомасці шалёнай кабылы*
*Жорны круціліся і малолі*
*Маю маладосць і памяць у пыл…*

*І вось, калі я стала старэйшай за маці,*
*Што была ўжо маці ў маім узросце,*
*Я паслала матам усё*
*«к чортавай мацеры»*
*І кола прадрала пальцам наскрозь:*
*Папяровае?!. —*
*Сцішыўся бег суцэльны…*
*З рукі кабылу карміла я хлебам…*
*Шапталіся людзі:*
*— Звар'яцела-Я!..*
*— Блазнавата-Я! —*
*бачыла Неба…*

## Санет № 3

*У большасці кінастужак*
*Жанчына сыходзіць увечары*
*Часцей за ўсё да іншага*
*І ў дождж абавязкова…*

*Буйным планам: постаць напружаная…*
*У торбу кідае рэчы,*
*Фотаздымкі няшчадна нішчыць*
*І на люстры крэмзае «LOVE».*

*Азіраецца на кватэры,*
*Застывае ў прыгожай позе,*
*На ўваходныя дзверы*
*Кідае апошні позірк…*

*Я ў гэта, на жаль, не веру,*
*Таму што сама сыходзіла…*

## Санет № 4 «Багема»

*У сапраўднай багемнай паэткі*
*У слоіку — ссохлыя кветкі,*
*Ля люстра — памады і пудра,*
*А ў шафе — штучнае футра…*

*Без рамак пажоўклыя фоткі,*
*Адвечна сонная котка…*
*Стан стомлена-дэпрэсіўны*
*Лякуецца шклянкай «Марціні»…*

*Стос вершаў недрукаваных,*
*Спіс каханых недакаханых…*
*У вачах — пагарда з адчаем,*
*А ў кватэры вэрхал звычайны…*
*Праблемы — адвечная тэма…*
*Што ўзяць?*
*Адным словам — «багема»…*

### ***

*Я ў сталіцы таксама рамантык, але*
*Тут рамантыкаў гэткіх даволі…*
*Раскіданыя вершы ляжаць на стале*
*Горкай горкаю з'едзенай солі…*

*Мне б прагматыкам быць і грошы капіць*
*На машыны, Канары, кватэры.*
*Толькі болей ад солі той хочацца піць*
*І ў дабро чалавечае верыць!..*

*Пасміхаецца сябра: «Пара пасталець!»,*
*Толькі цяжка ўздыхае матуля…*
*У сталіцы рамантыкаў сотні, але…*
*Сярод іх застаюся пакуль я.*

### ***

*П'янкі водар вясновы*
*душу абудзіў*
*Успамінамі…*
*Я прыехала зноў*
*на малую радзіму —*
*Край язмінавы.*

*Да пакінутай маці*
*ў закінутай хаце*
*Бабулінай,*
*Дзе заўжды мяне помняць*
*і будуць чакаць тут*
*Любую…*
*……………………*
*Цераз будняў сталічных*
*жыццёвую стому,*
*Рагачоў мой,*
*Ахілі мае сненні*
*буслiным крылом*
*Бела-чорным…*

Літаратура і мастацтва № 23 14 чэрвеня 2013 г.





## Валянцін БАРЫСЕВІЧ

# Адплата

*Апавяданне*

1

Худы, гарбаносы і лабасты Сцяпан Гонтараў, як толькі дагледзеў небагатую гаспадарку — згатаваў у печы чыгунок прасяной кашы, спрэг на патэльні колькі яблыкаў, — дык адразу і выйшаў на вуліцу, прысеў на лавачцы пад сухой, з аблушчанаю карой, стагадовай вярбою, удыхнуў гаркаватае асенняе паветра. Дзесьці за вёскай у перастаялай траве альбо на дрэвах крычалі кнігаўкі. Сумна, адзінока без Акуліны, якую пахаваў чатырнаццаць гадоў таму. Вось і радаваўся заўтрашнім выхадным, спадзяваўся, што нехта прыедзе з радні, прывязе падарункаў, а калі раптам завітае зяць з жонкай Люсяй і дзецьмі Інгай і Наталляй, то, мабыць, і кропля «казёнкі» перападзе. А выпіць ён любіў, а ў свае дзевяноста і ўмеў, таму застоллі ў хаце былога ўдзельніка вайны, кавалера ордэна Баявога Чырвонага Сцяга былі частыя.

Расплаўлены дыск сонца ўжо завісаў нізка над полем, а на безжыццёвым гарызонце было спакойна. Пачалі даймаць куслівыя камары. «Пэўна, сёння ўжо не прыедуць, — падумаў стары. — Трэба ісці ў хату, сілкавацца і спаць…» Ён павольна павярнуўся да сабакі, які ляніва дрыхнуў, пацягваючыся і прыплюшчваючы вочы, непадалёку на яшчэ зялёнай мураве, пагладзіў Топіка рукою, цяжка прыпадняўся з лаўкі, выпрастаў спіну і пасунуўся, ледзь-ледзь адрываючы ад зямлі ногі, у свой двор.

Ля хлява, дзе былі складзены пад павецю дровы, прыпыніўся, адшукаў сякеру, акуратна паставіў на калодзе, месцамі расплясканай абухом, бярозавую цурку. Коратка адпілаваная і яшчэ сырая, яна нават ад лёгкага ўдару рассыпалася на некалькі паленцаў. Ён падняў некалькі паленцаў з зямлі і асцярожна, нібыта яны былі шкляныя, паклаў пад павець.

Сыны і зяць, якія цёплым летам і восеннню часцей наведваліся ў вёску, чым у слоту і холад, неадройчы яму казалі, каб не спяшаўся з нарыхтоўкай дроў, маўляў, да «белых мух» яшчэ далёка, паспеем. Аднак ён, дзед Сцяпан, не любіў сядзець без справы — хоць некалькі плашак ды расколе на дровы. «Акуратнасць — рыса характару, за што паважаюць вяскоўца як гаспадара», — любіў казаць стары, і ніякія доказы на яго не дзейнічалі.

Сцяпан у чарговы раз ускінуў сякеру і адчуў, як пад рабрынай разліўся, аддаючы ў скроні, боль. Рукою ўхапіўся за вугал хлява, потым прысеў на краёк плахі, аддыхаўся, выцер рабром далоні расінкі халоднага поту, што скаціліся па глыбокіх маршчынах на пераноссе. «Мо зноў кулю зварухнуў, — падумаў ён, — так ужо і пamру з ёю».

Калі ў вачах нечаканы туман асеў і боль быццам крыху адышоў, сціх, прыкмеціў ля прысценка курэй. Яны грэбліся ў складзеных для прасушкі вянках цыбулі.

— А кыш на вас, кыш, — гукнуў стары і дадаў: — Пачвары! Месца вам мала...

— Што ты там кышкаеш, кузурка! — цынічна раўнуў, ідучы па вуліцы міма двара Сцяпана, саракагадовы Тарас — па мянушцы Галяр. — Я табе як кышкну!

Галяр прыкурыў цыгарэту, завярнуў у двор Гонтарава.

— Што, месца мала? — басам і ўладарна выгукнуў Тамашоў.

— Добры вечар, добры вечар! — недачуўшы, ціха павітаўся Сцяпан.

— Ты, сволач, яшчэ здзекуешся... — вочы Тамашова наліліся холадам, і ён адным выспяткам збіў дзеда з ног.

— Во табе кыш-кыш! І за месца, якога мала... — працягваў збівааць старога выспяткамі Тамашоў. — Потым шпурнуў кепку дзеда Сцяпана, што валялася побач, у яго скрываўлены твар.

— Ратуйце, ратуйце! — з дзікім жахам, як ніколі ў жыцці, выкрыкнуў у знямозе Сцяпан.

У суседзяў Валодзі і Васіля Таргаўцовых, якія прыбеглі ў двор старога Сцяпана, вочы як ашклянелі ад утрапення:

— Божа мой! Бяжы хутчэй дахаты, — сказаў Васіль. — Машыну сюды. Трэба Сцяпана ў бальніцу.

— Я — умомант! — схамянуўся Валодзя і выскачыў з двара.

— А з табой будзе іншая размова, — кінуў уладарны і жорсткі позірк Васіль Таргаўцоў і дадаў: — Мы цябе яшчэ знойдзем, падлюка… Я і не думаў, што побач такі гад поўзае…

Тарас Тамашоў моўчкі, касалапа ставячы ногі, пашлэпаў на вуліцу. Ён добра ведаў, што Васіль не з тых, хто проста даруе крыўду. Калі што, Таргаўцоў — гэты плячысты чалавек, кашулю якога ў поясе перахоплівала афіцэрская папруга, — мог урэзаць і між вачэй…

— А можа, Вася, не трэба ў бальніцу, га? — крыху ачухаўшыся, папрасіў Сцяпан, калі Таргаўцоў-старэйшы падняў яго з зямлі. — Бач, і Топік прыбег. Хто яго тут дагледзіць? Можа, дасць Бог, аклямаюся...

Яны зірнулі адзін на аднаго.

— Пройдзе альбо не пройдзе, — гледзячы на прыгорбленую спіну Сцяпана, рашуча сказаў Васіль, — не нам з табой вырашаць. А лекі не пашкодзяць. — Таргаўцова апёк востры жаль да гэтага старога, але ўсё-такі блізкага яму чалавека, праз вуліцу з якім пражыў не адзін дзясятак гадоў.

2

Марта Кулакова прыпляскала жалязкай рыдлёўкі невысокі конус капца, адставіла яе ўбок і, ацэньваючы, акінула позіркам невысокі грудок. «Пэўна, хопіць! Маразы не павінны дабрацца да бульбы...» І тут прыгадала словы калгаснага пчаляра Аркадзя Скуднага: «Пчолы, калі чуюць моцныя халады, амаль цалкам завошчваюць прорезь лятка, пакідаючы толькі невялічкую дзірачку, для паветра. Сёлета медазборшчыкі не спяшаюцца ўцяпляць жыллё. Значыць, павінна быць лёгкая зіма». «А няхай ужо так і было б... Мінулай зімой хапіла маразоў», — падсумавала думкі Марта і нахілілася, каб сабраць у падсцілку рэшткі жытняй саломы і папараці.

Раптам аднекуль з двара пачуўся адчайны крык: «Ратуйце! Ратуйце!»

— Ну, што гэта яшчэ за немач? — уголас перапытала сябе старая і толькі праз нейкую хвіліну прыкмеціла ля суседскага хлява Тамашова, які мацюкаўся, некага штурхаў нагой. «Гэта ж, відаць, Галяр выспяткамі Сцяпана качае па двары, — маланкай працяўшы свядомасць, абдало холадам Марту. — Заб'е ж, ірад, а мяне па судах пасля...»

Кулакова яшчэ раз выглянула з-за капца, а пасля, адчуўшы нейкую гарачую ўзбуджанасць, подбегам кінулася дахаты, зачынілася на зашчапку. «А мо Васіля гукнуць?» — з пярэдняга пакоя яна выглянула ў вакно, што выходзіла на сядзібу Сцяпана Гонтарава. Але адсюль нешта разледзець было цяжка — перашкаджалі яблыні, якія густа перапляліся галінамі.

Крыху патапталася ля акна, пасля скінула ля парога гумавыя боты і па саматканай дарожцы прайшла ў залу, выглянула з-пад паркалёвай фіранкі на супрацьлеглы бок вуліцы. Ціхенька, каб, далібог, хто не прыкмеціў, праз шыбіну агледзела двор Таргаўцовых. Адразу нічога не заўважыла. І толькі калі ў чарговы раз абводзіла позіркам суседні двор, заўважыла ля стажка сена, складзенага крокаў за пяць ад вуліцы, Таню Таргаўцову.

Стаіўшыся за капой сухога сена, яна ажно прысела, калі побач нечакана завіскатаў тармазамі, спыняючыся, жоўты «Масквіч». З яго вылезлі бацька і брат Валодзя.

— Што ты тут робіш? — пацікавіўся брат.

— Ціха ты. Я з крамы ішла, дык бачыла: там Галяр дзеда Сцяпана збівае.

— Якога Сцяпана? — устрывожана перапытаў бацька.

— Гонтарава...

— Дык якога ж д'ябла мы тут стаім… Там мо няшчасце здарылася! — сказаў Валодзя і раптам спахмурнеў, кінуўся да Сцяпанавага двара.

3

Калі крыху ачуняў, Сцяпан паспрабаваў прыпадняцца з бальнічнага ложка, але рэзкі боль паласнуў, скаваў паясніцу, і ён, крактануўшы, зноў апусціў галаву на падушку, зажмурыў вочы, а перад ім, як і некалькі дзён таму, вымалёвалася агідная, са звярыным выскалам фізіяномія Тараса Тамашова.



Малюнак Вікенція Пузанкевіча

— За што? Месца быццам тут мала? — нібыта паўтараючы выкрык Галяра, глуха прастагнаў стары. — Дык я ж гэту зямлю, сукін ты сын, вось гэтымі рукамі для цябе, сапляка, здабываў.

На вачах старога блiснулі слёзы.

Яго, сівога Сцяпана, сагнутага гадамі і цяжарам даўняга гора, усе гэтыя дні мучылі не столькі сінякі, кровападцёкі, колькі іншая, больш пякучая рана. Яна раздзірала сэрца дзевяностагадовага старога, узрушвала думкі.

Гонтараў згадаў мінулае. Ён сам прымусіў сябе ўспомніць яго. Але ўспамін не мучыў. Ён толькі балюча крануў сэрца, як бы сціснуў яго абцугамі і адразу адпусціў. У адным з баёў каля Быхава «трыццацьчацвёрку» Гонтарава падбіў артылерыйскі снарад. Танк без гусеніцы замёр на месцы.

«Эх, чорт бы яго пабраў... — заскрыгатаў зубамі Сцяпан. — Снарад пракляты», — высунуўся з люка, хацеў пераканацца, ці можна счапіць металічныя пліты ланцуга, і ў гэты момант па панцыры танка прабегла чарга куль. Адна з іх не мінула танкіста Гонтарава. Схапіўся за правае плячо. Далонь у імгненне заліло крывёю. Потым былі шпіталь, санітаркі і зноў франтавыя дарогі — да новага ранення, яшчэ больш цяжкага, пад Берлінам, з якім і сустрэў Перамогу. Неўзабаве вярнуўся ў вёску да Акуліны.

— Ну што, гула асмаленая... Адваяваўся... — неяк, стрэўшы надвячоркам, вымавіў сусед Янка Тамашоў — бацька Тараса Тамашова.

— Вярнуўся. А хутка і з такімі, як ты, разбяруцца — партызаніў ты ці кашу немцам гатаваў, — адказаў Сцяпан Гонтараў.

— Гэта яшчэ паглядзім, на чый азадак скула сядзе, — агрызнуўся стары Янка.

...Позна вечарам у дзверы хаты моцна загрукалі. Акуліна з трывогай перапытала: «Хто там?» — «Свае», — пачула прыглушаны голас з двара.

У сенцы ўварваліся трое.

— Дзе Янка?

— Які Янка? — спалохана перапытала Акуліна.

— Як — які? Муж твой, Янка Тамашоў... — паправіўшы на рэмені аўтамат, удакладніў высокі, з густа пакрытым шчэццю тварам мужчына.

— Вы памыліліся. Наша прозвішча Гонтаравы, а муж мой, Сцяпан, на фронце. А хата Янкі — праз дом, бліжэй да краю вёскі, — адказала Акуліна.

Павісла цішыня.

— Ах, гад... Дык мы ж да яго і заходзілі, — пераглянуліся між сабой незнаёмыя ёй мужчыны. — Ну, паліцэйскі вырадак. Бач, куды скіраваў...

Яны кінуліся да двара Тамашовых.

Цяпер дзверы адчыніла круглая, як кацёлка, чырванашчокая кабета. На роспыты адказала: «Н-не ведаю... дзе ён. Ухапіў шапку і на вуліцу... Я думала, ён з вамі...»

— Ад свайго лёсу не збяжыць... Так і перадай яму, — цвёрда выгукнуў усё той жа высокі, сярэдніх гадоў мужчына і злосна дадаў: — Трапіць на вочы — пасячом кулямі на капусту.

4

Сцяжынка павіхляла сярод сосен, бярозак і вывела на шырокі бальшак. Сцяпан пераадолеў адзін пагорак, узышоў на другі, спыніўся на хвіліну, перавеў дыханне. І толькі цяпер за кіламетр ад вёскі прыкмеціў над ёй чорнае воблака дыму, што калыхалася ў паветры і адплывала да лесу.

«Што гэта? Што гарыць?» — перапытаў сам сябе Сцяпан, прыбаўляючы кроку.

Ужо на вясковай вуліцы пачуў жаночы лямант: «Людзі добрыя, ратуйце, ратуйце! А што ж гэта робіцца?» Вакол сваёй хаты, якую цалкам ахапіла полымя, услед за домам Тамашова, бегала, размахвала рукамі і крычала Марта Кулакова.

Сцяпан ухапіў з лаўкі вядро з вадой, кінуўся з ім да двара Тамашовых, але сам пабачыў, што хату ўжо не выратуеш — дах будыніны абваліўся, у паветра кучаравіліся снапы іскраў. Стары скіраваў да двара Кулаковай.

— Куды ты, дзед Сцяпан? — перастрэла яго Таня Таргаўцова.

— Дык трэба ж... — хацеў было растлумачыць стары.

— Усё... На якую трасу? — хітнула рукой маладзіца. — Нічым ты там не дапаможаш. Сваю лепей глядзі, вецер усхапіўся.

Іскры, падхопленыя моцнымі павевамі ветру, адляталі ўдалячынь і дагаралі знічкамі.

— Як гэта здарылася? — суха спытаў у Васіля Таргаўцова Сцяпан.

— Хто яго ведае... — развёў рукамі Васіль. — Кажуць, што Тамашоў самагонку гнаў. Закурыў п'яны і заснуў. З яго хаты і пайшла бяда.

— А сам жа ён дзе?

— Там... — паказаў Васіль Таргаўцоў на ацiхлае полымя, дзе тырчалі абвугленыя бярвёны.

…Садзілася сонца. Пад нагамі шамацела сухое лісце, якое нячутна зрывалася з клёнаў, кружылася, навяваючы самоту, над помнікам Сцяпана Гонтарава і адляталa ўдалячынь.

— Памёр праз месяц пасля пажару ў вёсцы. — Глуха сказала сямідзесяцігадовая жанчына ва ўсім чорным — відаць, яго дачка — і самотна дадала: — А мог яшчэ жыць і жыць, нягледзячы на ўзрост. Але Бог справядлівы. Забойцу — адплата…

# Дарогі з Юрыем Сапажковым

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Паэт, якому наканаваны быў цікавы лёс, пайшоў з жыцця нечакана. Многія нават і не ведалі, што ён апошнія месяцы моцна хварэў… І развітацца з Юрыем Міхайлавічам прыйшло шмат добрых і прыязных да яго сяброў. Госпадзі, чаму так атрымліваецца, што не ў пару ты забіраеш руплівых і дзеяздольных?! Здавалася, ён, Юрый Міхайлавіч, будзе працаваць вечна і без усялякай стомы. Мо і гэтае памылковае перакананне, якое, пэўна ж, кіравала і ім, таксама падточвала сілы Паэта і Асобы.

Таленавіты журналіст, ён здолеў стаць настойлівым і шчырым служкам Яе Вялікасці Літаратуры. У апошнія гады пабачыла свет адразу некалькі яркіх кніг Юрыя Сапажкова. Па-першае, падзеяй для чытачоў, аматараў сапраўднай літаратуры стаў паэтычны пераказ «Прарока» Халіля Джэбрана — твора, які парушыў многія традыцыйныя ўяўленні пра арабскіх пісьменнікаў. Пасля — кніга літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «На прасторы слова». Працягам яе стаў зборнік эсэ, артыкулаў «Паміж духам і словам». І яшчэ — кніга вершаў, адрасаваных юнаму чытачу: «Павук-канатаходзец». У рукапісе ляжыць кніга арыгінальнай паэзіі Юрыя Міхайлавіча. Тонкі зборнік яго новых вершаў. І яшчэ шмат што раскідана па друку, пабачыла свет на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў. А гэта ж усё — плён працы чалавека, які быў рэдактарам чужых тэкстаў, болей таго — чалавека, высокага прафесіянала, які шчодра аддаваў сябе пошукам новага і арыгінальнага, які, не шкадуючы часу, дапамагаў іншым. Думаю, што і з яго паэтычных перакладаў мог бы вырасці адмысловы том…

Сказаць, што Сапажкова любілі, — значыць, нічога не сказаць. Ім захапляліся. Магчыма, нехта спрачаўся з ім за сваё права быць надрукаваным. І Юрый Міхайлавіч быў настойлівым і ўпартым, адстойваючы свае мастацкія перакананні. Няхай сабе — і перакананні паэта, у якога таксама былі свае любімыя творцы, любімыя кірункі і любімыя мастацкія сімвалы. Але ж у гэтай яго перакананасці было сапраўднага столькі, што часам і сапернікі, пакрыўджаныя за прамалінейнасць ацэнак, не маглі не пагадзіцца з таленавітым рэдактарам.

Лёгкі на пад'ём, Юрый Міхайлавіч не шкадаваў часу на дарогу, на тое, каб убачыць новыя прасторы і краявіды. І галоўнае — пабываць на сустрэчы з мясцінамі, што нараджалі і натхнялі паэтаў. У які б далёкі шлях ён ні выбіраўся, заўсёды мог весці рэй, паспяваў сачыць за трасай і выказваць свае думкі, спрачацца, даказваць сваё ўласнае, практыкай гадоў і мастацкага вопыту выпрацаванае. І разам з тым умеў услухоўвацца ў выкладзеныя іншымі перакананні. Здараліся і камічныя ці, наадварот, — амаль драматычныя сітуацыі… Аднойчы, запаліўшыся спрэчкай, Юрый Міхайлавіч выехаў супраць руху. І лічаныя секунды аддзялялі яго аўтамабільны «клуб паэтаў» ад сутыкнення з сустрэчным аўто… Пранесла!..

Каго толькі і на якія імпрэзы ён не вазіў!.. На радзіму Алеся Пісьмянкова ў Касцюковічы мы ездзілі з ім разам з Навумам Гальпяровічам, на чарнобыльскую Хойнікшчыну — з Міколам Мятліцкім. На Пухавіччыну і Чэрвеньшчыну — з народным пісьменнікам Удмурціі Вячаславам Ар-Сяргі. Ды і проста разам з ім — ужо ў камандзіроўках аўтобусных, у камандзіроўках, куды дабіраліся цягніком, — было надзвычай цікава, утульна. Бо не толькі сваімі ведамі, мноствам вершаў і літаратурных гісторый сілкаваў ён спадарожнікаў, але яшчэ і ціхім спакоем, дабрынёй, увагай. Таму, пэўна, і сяброў у яго хапала. Хапала не толькі ў Беларусі, але і па многіх краінах. Шмат гадоў Юрый Міхайлавіч быў сярод актыўных арганізатараў міжнародных круглых сталоў, якія ў пярэдадзень Дня беларускага пісьменства пачынаючы з 2007 года праводзяць міністэрства інфармацыі краіны і Саюз пісьменнікаў Беларусі. Душой быў на гэтых круглых сталах. Як умеў, шчыра адстойваў інтарэсы мастацкіх перакладчыкаў, заводзіў знаёмствы з разлікам на супрацоўніцтва гасцей перш-наперш з "Нёманам", у якім Сапажкоў вёў раздзел "Всемирная литература" в "Нёмане"». І калі я напісаў розным сябрам, калегам у іншыя краіны, што пайшоў з жыцця наш добры старэйшы таварыш, словамі спачування, спагады адгукнуліся Ато Хамдам з Душанбэ, Вадзім Дулепаў з Екацярынбурга, Валерый Казакоў з Масквы, Любоў Шашкова і Кайрат Бакбергенаў з Алматы… Іх паэтычныя, творчыя дарогі перасекліся, перакрыжаваліся, судакрануліся з яго, паэта і добрага чалавека Юрыя Сапажкова, жыццёвымі сцежкамі. І выразныя яго сляды засталіся ў шматаблічнай мастацкай і геаграфічнай прасторы Планеты Зямля… Так заўсёды бывае з сапраўднымі мастакамі слова. Па справах, па выказаных перакананнях іх ведае Свет… А што да дарог Сапажкова, то яны і заўтра будуць доўжыцца. Бо не ўсё з напісанага ім яшчэ выдадзена. Не ўсё яшчэ адкрыў чытач…

# На Пісьмянковым лузе зноў талентаў парад…

На працягу двух дзён, 24 — 25 мая, у Касцюковіцкім раёне праходзіла II абласное свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг».

**Наталля ДРОБЫШАВА**

Сёлетняя сустрэча пачалася 24 мая з паэтычных «Пісьмянкоўскіх чытанняў», якія адбываліся ў дзіцячай школе мастацтваў. У якасці ганаровай госці прысутнічала ўдава паэта Алена Рыгораўна Пісьмянкова. Яна падзякавала арганізатарам сустрэчы, расказала пра гісторыю выдання апошняга зборніка вершаў свайго мужа «Не знікай» і пачытала любімыя творы.

Гомельскія аўтары Аляксандр Бардоўскі, Анатоль Бароўскі, Васіль Ткачоў падзяліліся ўспамінамі пра Алеся Пісьмянкова, пачыталі свае творы. У выкананні барда Вольгі Цярэшчанкі прагучалі цудоўныя песні. Паэт, бард, кіраўнік гомельскага аматарскага клубнага аб'яднання «Арт-кафэ на Ірынінскай» Дзмітрый Нілаў пазнаёміў публіку з удзельнікамі клуба. Цёпла ўспамінаў свайго сябра і калегу пісьменнік Анатоль Зэкаў. Яго выступленне было прасякнута гумарам, што спрыяла добраму настрою ў зале.

Бацькаву радзіму наведаў Уладзімір Бурдзялёў — сын вядомага беларускага паэта Аляксея Русецкага. Удзел у свяце браў таксама Уладзімір Бербераў — унук народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Ён падарыў прысутным старадаўнюю аўтэнтычную песню пад акампанемент такога ж старадаўняга гармоніка. «Я ніколі не чуў пра паэтычныя дынастыі, — сказаў музыка, — паэтычны талент у спадчыну не перадаецца, але імкненне да прыгожага, да мастацтва павінна закладвацца з дзяцінства».

З Масквы на сустрэчу прыехала паэтэса Сняжана Холадава. Яе карані таксама з Касцюкоўшчыны. З гэтым мястэчкам звязаныя яе дзіцячыя ўспаміны, менавіта тут яна ўпершыню паспрабавала свае сілы на паэтычнай ніве.



Парадавалі слухачоў і гаспадары — мясцовыя паэты, спевакі і музыкі. Паэтэса Святлана Даськова прачытала новыя вершы, у тым ліку прысвечаныя памяці Алеся Пісьмянкова. Аўтэнтычныя песні, якія праславілі Ніну Бялугіну далёка за межамі раёна, прагучалі для ўсіх гасцей свята.

Самыя маладыя аматары паэзіі — удзельнікі народнага аматарскага аб'яднання «Літаратурная гасцёўня "Крынічка"» — падрыхтавалі музычна-паэтычны блок па творчасці мясцовых паэтаў і па дзіцячых вершах Алеся Пісьмянкова. Вершы загучалі сучасна, па-новаму.

На другі дзень свята праходзіў конкурс літаратурных выставак, у якім удзельнічалі дзесяць раёнаў Магілёўшчыны. Тут былі прадстаўлены багаты літаратурна-краязнаўчы матэрыял: кнігі з аўтографамі пісьменнікаў, аўдыёзапісы, метадычныя дапаможнікі, буклеты, медыяпрэзентацыі. Па выніках конкурсу дыплом III ступені атрымала Горацкая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, 2-е месца — у Асіповіцкай бібліятэчнай сеткі. Дыпломам I ступені ўзнагароджана Касцюковіцкая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. Яе выстаўка складалася з трох частак: «Магілёўшчына літаратурная», «Літаратурнае сузор'е Касцюкоўшчыны» і «Думаць вершы». Працавала экспазіцыя ўсяго адзін дзень, і ўвесь час каля яе было шматлюдна.

Адбыліся таксама конкурсы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аўтарскай песні і конкурс сярод маладых паэтаў. Усе пераможцы атрымалі памятныя статуэткі «Натхненне», зробленыя з каляровага шкла паводле эскіза касцюковіцкіх мастакоў.

Акунуцца ў атмасферу мінуўшчыны запрашалі ўдзельнікі касцюковіцкага клуба «Ратнік». Акцёры рэканструявалі рыцарскія двубоі ранняга сярэднявечча. Незабыўных уражанняў хапіла кожнаму.

Кіраўнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец лічыць, што прыйшоў час пашыраць маштаб «Пісьмянковага лугу». Ужо ёсць канкрэтныя ідэі. Можна з упэўненасцю сказаць, што «Пісьмянкоў луг»-2014 збярэ разам творчых асоб з усёй краіны.



Юрый САПАЖКОЎ

## Бацька

*Мой бацька там, дзе цемры ўсхліпы*
*Па-над апошняю дамоўкай.*
*Ён там, дзе ўжо карэнне ліпы*
*Наўзмаш абсечана рыдлёўкай.*
*Дзень новы прывідна маячыць*
*Паміж крыжоў самотна-важна.*
*Але там бацька… Гэта значыць —*
*Пайсці туды за ім не страшна.*

***

*Аблок бялёсыя мярэжы.*
*Рыбацкі сум на прыбярэжжы.*
*Страфа плыве па хвалях вод.*
*І чайкі ў небе вольны лёт.*
*Яна то ў вышыні згасае,*
*То промнем зрынецца ў раку.*
*Лускі іскрыны выкрасае*
*З вады на зайздрасць рыбаку.*
*Кульнецца промень — і відно*
*У глыбіні празрыстай дно.*
*У вершах, светлых, як вада,*
*Дна не відаць…*

## Кропка невяртання

*Пайсці ад знаных берагоў,*
*Як адыходзіў на світанні…*
*У лексіконе маракоў*
*Паняцце — кропка невяртання.*

*Цяпер ужо ў астатні раз!*
*Чакае поспех ці згасанне?*
*Жыццё…*
*У кожнага ёсць з нас*
*Такая ж кропка невяртання.*

*Як ні марудзь, але спярша*
*Адкажаш на адно пытанне:*
*Ці ўспыхне святасцю душа*
*Прад гэтай кропкай невяртання?*

*Калі ж другіх шляхоў не меці,*
*Прыходзіць вечнае расстанне.*
*Цябе пагоніць, як на смерць,*
*Туды, за кропку невяртання.*

* * *

*Тваіх удач дарослых узнясенне*
*Стаміўся разумець і прынімаць.*
*Шукаць мне застаецца суцяшэнне*
*У тым, дзе суцяшэнню не бываць.*

*Не, не шукаць… Якая недарэчнасць —*
*Браць слоўнаю напорыстай гульнёй.*
*Бо прыгажосць —*
*яна зусім не крэпасць —*
*Не браць яе, а здацца перад ёй.*

***

*Прамоўлю «ліпень» светла, як зарок.*
*І быццам пырсне прахалодны сок,*
*Як смак чарэшні ранішні няўлоўны.*
*Нядаўнішніх насельнікаў шпакоўні,*
*Насычаных чарэшняй, горне ў сон.*
*Як ягада, хінецца долу лета.*
*А дзень яшчэ такі даўгі і светлы,*
*Як быццам сонцам папярхнуўся ён.*

## Бяссмерце

*Нягоды ўзлёты нашы рушаць,*
*Спакойным будзь — не абмінуць.*
*І, не выносячы нас з душаў,*
*Нас на плячах ужо нясуць.*
*Нядоўгі ўсё ж век чалавечы.*
*Так жыць патрэбна на зямлі,*
*Каб перакласці нас на плечы*
*З душы*
*Ніколі не змаглі.*

**Пераклад з рускай Міколы МЯТЛІЦКАГА**

*Унікальны праект*

# Падарожжа ў Радзівілаўскую дзяржаву

У Выдавецкім доме «Звязда» не так даўно пабачыла свет новая кніга Анатоля Бутэвіча «Таямніцы Нясвіжскага замка. Падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем». Гэтая падзея стала добрай нагодай для гутаркі з пісьменнікам.

**— Анатоль Іванавіч, чаму менавіта Нясвіж стаў пунктам прыпынку вашага падарожжа ў мінулае краю?**

— Новае выданне з'яўляецца, па сутнасці, працягам своеасаблівай серыі кніг. У першай мы падарожнічалі па Мірскім замку разам з Адамам Міцкевічам, а ў трэцяй — яе тэкст ужо амаль гатовы — паспрабуем разгадаць загадкі Крэўскага замка з дапамогай Вітаўта Вялікага. Цяпер у цэнтры ўвагі апынуўся Нясвіж, бо мне, нясвіжскаму выхаванцу, было б сорамна не зрабіць кнігу пра сваю зямлю, пра тое, адкуль я стаў на крыло. Не менш важна і тое, што і замак, і род Радзівілаў заслугоўваюць таго, каб пра іх пісалі, гаварылі.

**— Сёння часам можна пачуць нараканні на тое, што Радзівілы не заслугоўваюць шырокай славы, што іх дарма гераізуюць… А тут — цэлая кніга, шыкоўны альбом, прысвечаны гэтаму магнацкаму роду.**




— Я не стараюся ствараць герояў, але і не спрабую дэгераізаваць асоб, якім трэба аддаваць належнае. Усё ж Радзівілы — род амаль забыты. У савецкі час мы не ведалі ні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, ні Нясвіжа. Цяпер змянілася стаўленне да нашай мінуўшчыны. Магчыма, на гэтай хвалі адбываецца ідэалізацыя несправядліва забытага. Але гэта натуральна, і з часам узвышаная хваля знікне, застанецца нармальная гістарычная праўда. Сказаць праўдзівае слова пра Радзівілаў для мяне таксама не пабочнае жаданне ў працы. Нявартыя яны таго, каб іх ганіць. У кнізе нават ёсць раздзел «Радзівілаўская дзяржава» — гэта маё дапушчэнне, маё літаратурнае меркаванне. Радзівілы мелі сваё войска, свой суд, сваю ардынацыю, замкі, уладанні, толькі грашовай адзінкі ўласнай не было. Яны будавалі касцёлы, кляштары, упрыгожвалі сваю зямлю, працавалі на карысць яе развіцця. Радзівілы стваралі друкарні, дзе выпускалі кнігі не толькі для сябе, але і для адукацыі людзей. Сапраўды, яны не размаўлялі па-беларуску: часта гучыць менавіта такі папрок. Але гэта заканамерна, бо ў тыя часы па-беларуску мала хто размаўляў, бо ў нас не было сваёй дзяржавы. Але, да прыкладу, Магдалена Радзівіл фундавала беларускую справу, у тым ліку выданне кніг Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, падтрымлівала суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца», на сваіх землях арганізоўвала беларускія школкі… Трэба на рэчы глядзець рэальна, быць сумленнымі і акцэнтаваць увагу на станоўчых момантах, а не толькі на непрыемных дзеяннях прадстаўнікоў гэтага роду.

**— Кнігу «Таямніцы Нясвіжскага замка» нельга назваць чыста навуковым даследаваннем нашай мінуўшчыны. Напэўна, ёсць тут і моманты, якія працуюць перш за ўсё на вырашэнне задачы папулярызацыі гісторыі, прыцягнення новых чытачоў?**



Фота Кастуся Дробава

— Сапраўды, у мяне было жаданне па магчымасці аб'ектыўна распавесці пра гістарычныя падзеі, была і літаратурная зацікаўленасць — нават на звыклыя рэчы глядзець трошкі нязвыклым позіркам, каб яны бачыліся чытачу эмацыянальна, з асабістым пачаткам. Я імкнуўся шукаць новы паварот, новыя тэмы. Таму ў кнізе па ўсім тэксце рассыпаны цікавыя і займальныя факты, гісторыі, падзеі, якія нешта новае распавядаюць і пра род Радзівілаў, і пра гісторыю Нясвіжа. Напрыклад, пра сувязь роду Янкі Купалы і Радзівілаў, Якуба Коласа і Радзівілаў. Некаторыя з гэтых цікавостак — напаўлегенды, некаторыя рэальныя. Але іх задача не толькі даць чытачу падставы для роздуму, але і зацікавіць. Тая ж легенда пра радзівілаўскае метро — падземны ход ад Міра да Нясвіжа, гісторыя пра Чорную Панну, пра першую і адзіную з роду Радзівілаў каралеву польскую Барбару, або фантастычныя гісторыі, што здараліся з Пане Каханку, якія пазней перайтвараліся ў незвычайныя прыгоды барона Мюнхгаўзена... Праца над матэрыяламі дазволіла і мне самому па-новаму зірнуць на нашу гісторыю. Спадзяюся, гэтую зацікаўленасць адчуе і чытач.

Дарэчы, «Таямніцы Нясвіжскага замка» працягваюць добрую традыцыю, што калісьці заклалася ў час выхаду кніг серыі «Сем цудаў Беларусі». На прэзентацыю кожнага чарговага выдання прыходзілі жанчыны і бралі ў мяне аўтографы для сваіх унукаў, якія сёння жывуць за мяжой. З кнігай, пра якую мы сёння вядзём гаворку, адбылося практычна тое ж самае. Як толькі першыя яе асобнікі трапілі ў продаж, мне патэлефанавала знаёмая, прадавец з кнігарні «Веды». Яна распавяла, што ў магазін прыйшла жанчына і просіць аўтара падпісаць 5 кніг для сваіх родных. Тады ж зусім выпадкова была арганізавана цэлая аўтограф-сесія: у дадатак да пяці я падпісаў яшчэ дзесяць кніг для чытачоў. Гэты факт сведчыць: у беларусаў ёсць цікавасць да гісторыі, што надзвычай важна для фарміравання грамадскай думкі.

**— Вядома, што ў Паставах ужо адбылася першая прэзентацыя «Таямніц Нясвіжскага замка». Але ж гэта не адзіная сустрэча з чытачамі, што пройдзе ў такім фармаце?**

— Так, адбудуцца падобныя імпрэзы і ў самім Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж», і ў Нясвіжскай раённай бібліятэцы. Вялікая прэзентацыя кнігі адбудзецца 27 чэрвеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў 16.00. Думаецца, выданне знойдзе свайго чытача, асабліва запатрабаваным яно будзе падчас летняга турыстычнага сезона. Гэта прыгожая, каляровая кніга, якую з густам афарміў Уладзімір Шолк, ды і па кошце яна даступная. Таму ў любым выпадку ўсе аматары чытання атрымаюць карысць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Паралелі*

# Паміж маланкай і зямлёй

Пра сучасную латышскую літаратуру мы ведаем не надта шмат. Сорамна прызнацца, але, не задумваючыся, нават і не прыгадаю ніводнага імя сучаснага паэта, празаіка, драматурга… Ды не… Цяпер прыгадаю — Улдыс Бэрзыньш. Кніга перакладаў яго паэзіі «Салаўі крычаць, я па-латышску…» не так даўно пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Кнігазбор». Прэзентацыя гэтага сціплага, але сэнсава важкага і важнага томіка прайшла ў пасольстве Латвіі ў Беларусі. З Рыгі ў Мінск завітаў і сам шаноўны аўтар.

**Чэслава ПАЛУЯН**

Калі чытаеш вершы Улдыса Бэрзіньша, у свядомасці часта ўзнікае думка: гэты чалавек далучаны да таямніц сусвету. Адзін з перакладчыкаў паэзіі спадара Улдыса на беларускую мову, паэт Алесь Разанаў, выказаўся так: "У сваіх вершах ён адгукаецца на ўсе рэаліі, што існуюць у свеце. У мяне такое адчуванне, што ён агучвае «Нешта» — што, да канца не вядома. Ён — гром, а маланка, якая належыць іншаму вымярэнню, пайшла. Незвычайная і трыганаметрыя яго паэзіі. Тут акрамя звыклага эліпса вымалёўваюцца і іншыя фігуры: конус, куб…» Магчыма, сакрэт у надзвычайнай здольнасці спадара Улдыса да вывучэння моў: ён вядомы паліглот, валодае больш як 20 мовамі, а магчыма, і чымсьці іншым.

Сам паэт з лёгкай усмешкай на вуснах кажа, што не ведае ніякіх сакрэтаў — хто ж прызнаецца? А яшчэ падчас кароткай гутаркі перад прэзентацыяй творца падкрэсліваe: «Мне вельмі сорамна, што я не размаўляю па-беларуску, бо ў ліку іншых ведаю польскую, рускую мовы».

**— Спадар Улдыс, выхад кнігі перакладаў вашых вершаў на беларускую мову стаў для вас значнай падзеяй?**

— Так. Беларусь — краіна маёй маладосці, тут я служыў у войску і таму стаўлюся да гэтай зямлі асабліва. І ў нашай літаратурнай традыцыі ўжо год сто — ад Яніса Райніса, Максіма Танка, Якуба Коласа — ва ўсіх пакаленнях афармляліся кантакты, і паэты перакладалі адзін аднаго. Але цяпер трэба нешта рабіць, каб самае маладое пакаленне 20 — 25-гадовых творцаў зноў уводзіла адзін аднаго ў кантэкст сваіх літаратур. Бо я фактычна ўжо не ведаю, што цяпер адбываецца ў беларускай літаратуры, але калі пабачу добрыя пераклады, то вазьму кнігу і пачытаю. Хочацца, каб і наша маладая латышская паэзія была прадстаўлена ў Беларусі. Нават спрабаваў каго-небудзь з паэтаў узяць цяпер з сабою ў Мінск, але, на жаль, не атрымалася. Думаецца, і без маёй дапамогі маладыя знойдуць дарогу адзін да аднаго.



Фота Вікторыі Ляйкоўскай

Латышскі паэт Улдыс Бэрзыньш.

**— Ці падабаюцца вам пераклады вашых вершаў на беларускую мову?**

— Так. Вельмі добрыя пераклады і Андрэя Гуцава, і Алеся Разанава. Але гэта толькі першы крок, бо ў выданні прадстаўлены мае старыя вершы. Хачу, каб пераклалі і новыя творы.

**— Якіх пісьменнікаў лічыце сваімі творчымі настаўнікамі?**

— Вельмі цяжка сказаць. Напэўна, хацеў бы лічыць настаўнікам Хорхе Борхеса, але я не яго паслядоўнік, проста аматар яго стылю, думкі. А ў беларускай паэзіі фактычна з усіх пакаленняў мне найбольш падабаецца творчасць Алеся Разанава, напэўна, таму, што ён мне блізкі незвычайнай архітэктурай сваёй паэзіі.

**— Валоданне многімі мовамі, магчымасць спрычыніцца да першакрыніц, арыгіналаў нейкім чынам уплывае на паэзію?**

— Складана сказаць. Напэўна, усё ж такі нейкі ўплыў павінна пакінуць тое, што ты прачытаў то ў аднаго, то ў іншага творцы. І сапраўды, у маю ўласную творчасць часам пранікаюць матывы з тых моў, над вывучэннем якіх працую ў дадзены час.

# І застаецца з табой...

*«МУЗЫ НЯСВІЖА-2013»: ПАЎНАЛЕЦЦЕ ФЭСТУ ЯК НАГОДА ДЛЯ РАЗВАГ*

Горад, які мроіцца ў сне. Песня, якой не скажаш «бывай». Свята, якое заўсёды з табой... Гэта — Нясвіж. Воляю лёсу набыў ён з далёкіх часоў славу нашай некаранаванай старасвецкай сталіцы, асяродка высокай мастацкай культуры і еўрапейскай цывілізацыі, унікальнай сядзібы муз у цэнтры кантынента. Люструнак яго вялікай і неадназначнай гісторыі нагадвае пра перыяды ўзвышэння і заняпаду, пра падзеі ўрачыстыя і трагічныя. Аднак ні гістарычныя катаклізмы, ні былое «прыраўноўванне» шляхетнага Нясвіжа да шараговых савецкіх паселішчаў не ператварылі яго ў духоўную правінцыю.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

Здаецца, у «гены» самога горада, праз генетычную памяць яго насельнікаў, увайшлі неацэнныя вартасці продкаў-нясвіжцаў: прага пазнання, творчы светапогляд, чуйнасць да мастацтва, імкненне гарманізаваць навакольнае жыццё. І — шанаванне сваіх культурных каранёў. Вось чаму так лёгка знайшла тут разуменне і падтрымку першая акцыя Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, скіраваная на папулярызацыю акадэмічнай творчасці (перадусім — нашай адроджанай спадчыны) сярод людзей, не прыахвочаных слухаць музычную класіку. Ініцыятыва маэстра Міхаіла Фінберга, якая два дзесяцігоддзі таму падавалася дзівацтвам, амаль утопіяй, увасобіўшыся ў тады яшчэ безыменны фестываль, увянчалася неверагодным поспехам. У хуткім часе дзякуючы плённаму і перспектыўнаму нясвіжскаму вопыту аркестр на чале са сваім няўрымслівым кіраўніком пачаў паслядоўна развіваць асветніцкі фестывальны рух у невялікіх, але значных для гісторыі краіны, гарадах і мястэчках. І кола такіх мясцін пашыраецца. Штогадовы фэст са сваёй канцэпцыяй ёсць цяпер у Заслаўі, Міры, Мсціславе, Тураве, Чачэрску, Іванаве, Хойніках... Сёлетняй восенню шаноўны творчы калектыў правядзе першае мастацка-асветніцкае свята ў Любані.

А «Музы Нясвіжа» збіраліся на сваёй легендарнай сядзібе зусім нядаўна. І ўжо 18-ы раз. Што за гэтай лічбай? Калісьці фестываль камернай музыкі вырас у навукова абгрунтаваны, канцэптуальны мастацкі праект Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра (у арганізацыі істотна дапамагаюць Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі аблвыканкам і яго ўпраўленне культуры, Нясвіжскі раённы выканаўчы камітэт). У межах праекта выканана мноства непаўторных канцэртных праграм, усприймаць якія звычайнай публіцы дапамагае каментарый навукова кіраўніка фэсту, прафесара Вольгі Дадзіёмавай, якая — падкрэслю! — бліскуча валодае жывым і трапным беларускім словам. Адкрыта і ўведзена ў гістарычны кантэкст айчыннага мастацтва чарада кампазітарскіх імёнаў, страчаных або наўмысна адчужаных ад беларускай культуры яе колішнімі ідэолагамі. А колькі твораў, да нядаўняга часу не вядомых нават прафесіяналам, набыло новае жыццё ў выканальніцкай практыцы музыкантаў аркестра — праз транскрыпцыі таленавітых аранжыроўшчыкаў (А. Шпянёў, Г. Гедыльтар, Г. Забара, У. Ткачэнка)! Больш за тое: маэстра М. Фінберг разам са сваімі аднадумцамі ўзяўся адраджаць і папулярызаваць творчую спадчыну беларускіх кампазітараў-класікаў XX стагоддзя, якую — вось дык сітуацыя! — трэба проста ратаваць ад забыцця.

Нясвіжская імпрэза — гэта спалучэнне жывой музыкі з дапытлівай навуковай думкай. Спецыялісты ў галіне выяўленчага мастацтва, гісторыкі архітэктуры, музыколагі, філосафы, эстэтыкі штогод падчас выязной фестывальнай канферэнцыі абменьваюцца вынікамі сваіх даследаванняў, а на аснове іх новых работ загадзя выдаецца зборнік матэрыялаў. Ён становіцца навуковым дапаможнікам для прафесіяналаў і пазнавальчай кнігай для аматараў роднай культуры і гісторыі. Прэзентацыя такога выдання прайшла і ў межах сёлетняй навукова-практычнай канферэнцыі, удзельнікі якой абмеркавалі пэўныя аспекты мастацкай спадчыны Нясвіжа.

Што яшчэ могуць фестывальныя музы? Паказаць спектакль: сёлета заслужаны аматарскі калектыў, тэатр імя Уршулі Радзівіл Нясвіжскага раённага цэнтра культуры і адпачынку прадставіў пастаноўку «Бог ёсць любоў» паводле А. Дударава. Наладзіць вернісаж: гэтым разам экспанаваліся работы выхаванцаў студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода (кіраўнік студыі С. Купрыянава) і перасоўная выстаўка з Нясвіжскага гісторыка-краязнаўчага музея «Акамянелая сімфонія». А ў атачэнні гэтых «нерухомых сімфоній» — архітэктурных пейзажаў, намаляваных мастакамі, улюбёнымі ў легендарны горад, — гучала жывая музыка: Радзівіл, Агінскі, Казлоўскі... Яе пераражэнні для незвычайнага інструментальнага складу ансамбля выкладчыкаў Нясвіжскай ДМШМ робіць кіраўнік гэтага калектыву, баяніст А. Буглай. Канцэртныя выступленні педагогаў ладзяцца па святах. А ў будзённы час яны далучаюць да беларускай музычнай спадчыны сваіх выхаванцаў. І тым і другім гэта цікава.

Мастацкі кіраўнік праекта М. Фінберг пазбягае прымітыўных параўнанняў чарговага фэсту з папярэднімі, вылучае сутнасць: «Фестываль адыгрывае вялікую выхаваўчую ролю ў жыцці Нясвіжа. Узгадавана пакаленне аматараў класічнага мастацтва, якое любіць і ўмее слухаць сапраўдную музыку, разбіраецца ў яе гісторыі. Выраслі тыя дзеці, якіх некалі прыводзілі на канцэрты бацькі. Я пазнаю ў зале знаёмыя, але пасталелыя твары колішніх падлеткаў і з прыемнасцю заначаю, што яны па-ранейшаму ходзяць на фестывальныя імпрэзы і вядуць за ручку ўжо ўласных дзетак. Усцешна, калі маладыя людзі проста падыходзяць на вуліцы з пытаннямі пра змест новай імпрэзы. Гэта дарагога каштуе, сведчыць пра высокую культуру жыхароў невялікага гарадка, які можна ўжо лічыць музычнай сталіцай. І гэта абавязвае нас падтрымліваць высокі ўзровень якасці праграм. Радуе, што нашы намаганні сугучныя сёння дзяржаўнай палітыцы ў развіцці рэгіёнаў, што нясвіжскі фэст называюць візіткай Міншчыны, падзеяй у музычным жыцці краіны. Але вельмі важна захаваць дасягнутае і перадаць наступным пакаленням. Хацелася б, каб на гэту сур'ёзную справу звярнула ўвагу тэлебачанне. Каб гледачы знаёміліся з музыкай, якая развівае лепшае ў чалавеку, каб часцей паказвалі зорак сапраўднага акадэмічнага мастацтва: нашых мэтраў і прыгожую, таленавітую, высокаадукаваную моладзь, а не толькі куміраў-аднадзёнак.

Пяць прэм'ерных разнажанравых канцэртаў прайшло падчас XVIII свята мастацтваў «Музы Нясвіжа». Удзельнікі — камерныя калектывы Нацыянальнага канцэртнага аркестра і яго эстрадныя салісты (выступілі ў праграме «Лепшая калекцыя папулярных песень» пад кіраўніцтвам М. Фінберга). Струнны квартэт пад кіраўніцтвам Тацціяны Вайлапавай стварыў яркую прэлюдыю да навукова-практычнай канферэнцыі, уразіўшы повяззю рознахарактарных фрагментаў з айчыннай квартэтнай музыкі (С.Манюшка, Д. Лукас, Д. Смольскі, У. Кур'ян), жанравых п'ес Г. Вагнера.

«Музыка духавых ансамбляў у старажытнай ратушы»: змест гэтай праграмы сілкаваўся багаццем інтэлектуальных і вобразных асацыяцый, незвычайнымі мастацкімі супастаўленнямі, парадаксальнай роднаснасцю, здавалася б,



Лаўрэат міжнародных конкурсаў Юлія Шчасновіч.



Л. Мельнікава «Нясвіжскі замак».

аддаленых культурных з'яў. Вядома, што вялікі Бах ніколі не ступаў па беларускай зямлі. Аднак асвоіў «модны» ў нас жанр паланэза, а сваю грандыёзную Сі-мінорную імшу прысвяціў Фрыдрыху Аўгусту Моцнаму, курфюрсту саксонскаму і каралю Рэчы Паспалітай, які выношваў ідэю незалежнасці ВКЛ і якога падтрымлівалі Радзівілы. Сын геніяльнага нямецкага кампазітара Карл Філіп Эмануэль Бах быў настаўнікам і сябрам Яна Голанда, які ў маладосці пакінуў родную Германію і на доўгія гады звязаў свой лёс з асяроддзем Радзівілаў. Голанд — сучаснік Моцарта. Вольфганг Амадэй ніколі не гасцяваў у Нясвіжы. Аднак абодва кампазітары, «авангардысты» сваёй эпохі, працавалі ў агульным інтанацыйна-стылявым полі. Вось чаму, параўноўваючы напісаныя ў адзін год партытуры знакамітай нясвіжскай оперы Голанда «Агатка» і моцартаўскага шэдэўра «Вяселле Фігара», нават на слых можна заўважыць шэраг супадзенняў. А ў пазнейшы час менавіта пад уплывам Моцарта, нават цытуючы яго музыку, стварае оперу «Фауст» (паводле арыгінальнага лібрэта самога Гётэ!) Антоній Генрык Радзівіл, які ў малады гады прыехаў у Германію і атабарыўся там на ўсё жыццё...

Але не толькі старасвецкую класіку Голанда прадставілі ў ратушы сапраўдныя майстры міжнароднага класа — ансамбль кларнетыстаў пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Генадзя Забары. Прагучала і пранікнёна-тужлівая «Мелодыя» А. Туранкова, беларускага кампазітара савецкага часу. У сярэдзіне мінулага стагоддзя гэту п'есу, напісаную для скрыпкі, выконваў наш знакаміты саліст Леў Гарэлік. Уражаны яе напеўнасцю і вобразнай глыбінёю, Уладзімір Скараходаў, тады студэнт-кларнетыст, а цяпер знаны музычны дзеяч, педагог (дарэчы, настаўнік Г. Забары), зрабіў яе пералажэнне для свайго інструмента. Мінулі дзесяцігоддзі, і тыя ноты ўбачылі свет у чарадзе іншых выданняў, ажыццёўленых пад эгідай колішняга Беларускага інстытута праблем культуры, які ўзначальваў доктар навук прафесар У. Скараходаў. Дарэчы, ён са шчырай павагай ставіцца да творчага набытку нашых далёкіх продкаў. І адным з першых падтрымаў працэс адраджэння ды папулярызацыі гістарычнай спадчыны, разумеючы вялікае значэнне старажытнай культуры для годнага духоўнага жыцця нацыі, для паўнавартаснай самасвядомасці беларусаў, для пераемнасці багатых еўрапейскіх традыцый народа. Да «Муз Нясвіжа» У. Скараходаў далучаецца як вучоны і кіраўнік ансамбля флейтыстаў, дзе грае выбітная моладзь, у тым ліку лаўрэат міжнародных конкурсаў Юлія Шчасновіч — уладальніца «срэбнай» флейты, якую падараваў таленавітай беларускай студэнтцы расійскі маэстра Уладзімір Співакоў.

Трапяткая чысціня «Адажыа» з балета Я. Глебава «Маленькі прынц», дасціпнасць «Абэрака» Г. Вагнера ва ўвасабленні флейт змянялася рамантычнай музыкай М. Карловіча ў выкананні абноўленага складу «Інтрады» (стваральнік і кіраўнік гэтага вядомага ансамбля трубачоў — прафесар Мікалай Волкаў). Следам «вымалёўвалася» жвавая чарада танцавальных абразкоў: выступалі артысты ансамбля салістаў на драўляных духавых інструментах пад кіраўніцтвам Івана Брычыкава. У іх віртуознай інтэрпрэтацыі каларытная «Бульба» Я. Глебава падавалася па-тэатральнаму кідкай хітовай п'есай, а «Полька» М. Чуркіна магла б скласці кампанію сваім венскім суродзічам — полькам Штраўса.

Вось такія спадкаемцы з'явіліся ў духавых аркестраў і ансамбляў, што існавалі калісьці пры вялікакняжацкім двары.

Узаемапранікненне культур у такой рухавай, адначасова бязмежнай і цеснай музычнай прасторы адлюстравалі праграмы яшчэ двух канцэртаў: «Сусветныя мелодыі — у падарунак Нясвіжу» (Цэнтр культуры і адпачынку) ды «Вяртанне ў Нясвіжскі замак: Радзівілы і музычны свет» (Тэатральная зала палацавага ансамбля). Атмасфера першай імпрэзы ўлучыла творы Ф. Шуберта, В. А. оцарта, Л. Андарсана, Ф. Хофмайстара, Г. Свірыдава, Д. Смольскага, Я. Брамса, А. Вівальдзі... Кларнетысты захаплялі мудрагелістымі карункамі бахаўскай паліфаніі; салісты на драўляных духавых — багатай на тэмбравыя нюансы «сімфанічнасцю» гучання фарандолы з музыкі Ж. Бізэ да драмы А. Дадэ «Арлезіянка»; струнны аркестр пад кіраўніцтвам Кацярыны Рэйхерт — меланхалічнай вытанчанасцю інструментальнай версіі 4-й прэлюдыі «паэта фартэпіяна» Фрыдэрыка Шапэна. Сцэны абноўленага радзівілаўскага дома поўніліся музыкай, створанай прадстаўнікамі слыннага роду; яе падтрымлівалі гарманічны кантэкст: творы Яна і Мячыслава Карловічаў, М. Ельскага, Я. Голанда. Іскрынкамі зззялі ўрачыстыя спевы з ананімнай «Нясвіжскай імшы» ў выкананні вакальнага ансамбля пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай; фінал Скрыпічнага канцэрта М. Карловіча, у якім саліравала Яўгенія Арлова; ля-мінорны паланэз М. К. Агінскага «Развітанне з радзімай», якім заўсёды завяршаюцца фестывальныя выступленні аркестра.

Настальгічны матыў любімага паланэза дадае эмоцый у шчымлівы момант развітання з Нясвіжам. Але ці варта гэта ўспрымаць як развітанне? У сэрцы даўно існуе зусім не містычны, але і не зусім зямны горад. Усмешлівыя кветкі-«тварыкі» братак на яго плошчы; п'янкі подых бэзу над шатамі падворкаў; блакітнавокія незабудкі ў прысадах радзівілаўскага парку, і вобразы-«незабудкі» з малюнкаў дзяцей, і «незабудкі»-мелодыі, якімі цешаць кожную жывую душу нясвіжскія музы... Усё гэта не знікае. Жыве ва ўспамінах і мроях. І застаецца — да наступнага непаўторнага спаткання з Нясвіжам.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

14 чэрвеня 2013 г.

# Выбіраем стратэгію развіцця

**Апошнім часам у нашай краіне рэгулярна адбываюцца форумы бібліятэкараў Беларусі «Гуманітарна-асветніцкая дзейнасць бібліятэк у кантэксце агульначалавечых каштоўнасцей і беларускай дзяржаўнасці». Першы форум прайшоў у 2009 годзе, другі — у 2011-м. Сёлета адбыўся трэці форум, у якім узялі ўдзел каля 400 дэлегатаў. Арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры РБ, Беларуская бібліятэчная асацыяцыя і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.**

### КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПРАГРАМУ

Праца форуму пачалася з урачыстага адкрыцця. Прагучалі прывітанні ад намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Анатоля Тозіка, старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Генадзя Пальчыка і міністра культуры Барыса Святлова. Пасля пленарнага пасяджэння ў памяшканні НББ прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі (ББА), на якой новым старшынёй савета была абрана Алена Даўгаполава, першы намеснік дырэктара НББ па абслугоўванні карыстальнікаў і ідэалогіі. На наступны дзень праца форуму была працягнута ў пансіянаце «Рудня» Лагойскага раёна.



Злева направа: дырэктар НББ Раман Матульскі, намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік і намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Марат Жылінскі.

### ГАВОРЫЦЬ УЛАДА

Намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік адкрыў пасяджэнне сваім дакладам «Дзяржаўная палітыка Рэспублікі Беларусь у галіне бібліятэчнай справы». Карціна, намаляваная Васілём Мечыслававічам, мела аптымістычны характар. Цяпер у Беларусі налічваецца каля 9,2 тысячы бібліятэк, фонд якіх складае 200 млн. экзэмпляраў. Прычым, у мінулым годзе выдаткі бібліятэк на пашырэнне фондаў упершыню за апошні час склалі больш як 15 %. Акцэнт робіцца на творах з пераліку сацыяльна-значнай літаратуры, спіс якой узгадняецца з усімі зацікаўленымі бакамі.

Пэўныя праблемы дзяржава імкнецца вырашыць праз комплексную праграму «Культура Беларусі», разлічаную на 2011 — 2015 гады. Плануецца яшчэ больш павялічыць фонды, прадоўжыць рамонт будынкаў і камп'ютарызацыю бібліятэк (сёння апошняя лічба складае ўсяго 58 %). Паколькі ў краіне скарачаецца вясковае насельніцтва, дзяржава вымушана зачыняць сельскія бібліятэкі (за апошнія дзесяць гадоў знікла кожная чацвёртая з іх). Але адначасова прадугледжаны комплекс мер па аптымізацыі сеткі бібліятэк. У прыватнасці, ствараюцца бібліятэкі-клубы. З кастрычніка 2011 года ажыццяўляецца эксперымент па стварэнні ў невялікіх населеных пунктах агульных бібліятэк на базе школьных.

Наталля Чуева, папярэдні старшыня Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі (ББА), падвяла вынікі працы арганізацыі за 2010 — 2013 гады.

Быў адзначаны шэраг станоўчых з'яў у дзейнасці ББА: рэгулярны выхад прафесійных выданняў, удзел у распрацоўцы заканадаўчых дакументаў (на жаль, не ўсе яны зацверджаны), актыўная дзейнасць асацыяцыі па ахове кніжных помнікаў (асабліва дзякуючы працы камітэта ББА на чале з Галінай Кірэевай), актыўнасць гомельскага гарадскога і барысаўскага раённага рэгіянальных аб'яднанняў і г. д. Наталля Станіславаўна спынілася і на пэўных недахопах. З 10 камітэтаў ББА фактычна працуюць толькі 8 (у мінусе камітэты па бібліятэчных кадрах і бесперапыннай адукацыі, а таксама па інфармацыйнай культуры). Дагэтуль не сфарміраваныя тэрытарыяльныя структуры асацыяцыі на ўзроўні абласцей. Акрамя таго, колькасць сяброў ББА дастаткова нераўнамерная. Калі прадстаўнікі Мінска складаюць 38 %, а Мінскай вобласці — 24 % ад агульнай колькасці, дык Гродна і Гродзенская вобласць — усяго 0,8 %. У ББА маецца сайт, але яго кантэнт пакуль нельга лічыць абсалютна задавальняючым.

### КУДЫ ІДУЦЬ АЙЧЫННЫЯ БІБЛІЯТЭКІ?

Дырэктар НББ Раман Матульскі спыніўся на пытанні «Бібліятэка і цывілізацыйныя выклікі». Ён адмоўна ацаніў палітыку аптымізацыі бібліятэчнай сістэмы і нагадаў, што ў савецкія часы не ўзровень традыцыйна вызначаўся колькаснымі паказчыкамі (сетка, аб'ём фонду і г. д.). Але раней у сістэму ўваходзілі бібліятэкі пры хатах-чытальнях, а таксама калгасныя і прафсаюзныя кніжніцы. Бліжэй да распаду СССР, калі сышлі ў нябыт адміністрацыйныя метады кіравання, большасць з іх спынілася існаванне. Адбылося вяртанне да агульнасусветных тэндэнцый: існавання звычайнай бібліятэкі. Таму колькасць беларускіх кніжніц ніколі не была празмернай. Цяперашнія працэсы аптымізацыі дырэктар НББ ацаніў як пераасэнсаванне савецкага досведу, бо новыя ўстановы падобныя да хат-чытальняў.

Таксама дакладчык заклікаў перагледзець стратэгію далейшага развіцця бібліятэчнай сістэмы. У якасці аргументаў ён прывёў сітуацыю з НББ. Так, нягледзячы на штогадовае павелічэнне фінансавання, колькасць фондаў скарачаецца (за апошнія пяць гадоў — на 20 %). У значнай ступені гэта звязана з павелічэннем кошту расійскіх кніг. Калі параўнаць сітуацыю за 2010 і 2012 гады, высветліцца, што затраты павялічыліся ў 2,5 раза, а колькасць набытых выданняў, наадварот, скарацілася ўдвая.

За апошнія тры гады на 18 % зменшылася колькасць традыцыйных чытачоў. Назіраецца скарачэнне патрэбы карыстальнікаў у ксеракопіях. Адначасова ўвесь час павялічваецца колькасць віртуальных чытачоў. З 2010 года колькасць запытаў да службы электроннай дастаўкі дакументаў павялічылася ў 5 разоў. Цяпер яе паслугі можна аплачваць з дапамогай банкаўскіх картак. Гэта той сэрвіс, якога чакаюць ад НББ карыстальнікі, што прыходзяць у бібліятэку па канкрэтную інфармацыю і імкнуцца, каб шлях да яе быў як мага карацейшы.

Але нават з дастаўкай такіх кніг існуюць пэўныя праблемы. Напрыклад, пошукавыя механізмы працуюць у дачыненні да манаграфій, але не ахопліваюць часопісаў. Даводзіцца, як рабілі яшчэ ў савецкія часы, замаўляць дванаццатыя нумары і выпісваць неабходныя артыкулы. На жаль, просты сэрвіс улацівы не ўсім бібліятэчным сайтам. Напрыканцы прамовы Раман Матульскі заклікаў калег вызначыцца, у якім кірунку далей рухацца бібліятэкарам.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота прадастаўлена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі**

# Музыкант і яго муза

**Чытальная зала Ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэкі імя Я. Купалы стала месцам сустрэчы з паэтэсай Верай Дыдышка і музыкантам Мікалаем Сокалам.**

Імя Веры Дыдышка займае дастойнае месца на літаратурнай карце Ляхавіччыны. Паэтычныя зборнікі «Святло душы» і «Надзея», якія ўбачылі свет у 2004 годзе, сталі сапраўдный падзеяй у культурным жыцці раёна. Яна друкавалася ў «Настаўніцкай газеце», у часопісах Нёман», «Полымя» і «Маладосць».

У апошнія гады многія вершы Веры Дыдышка сталі песнямі дзякуючы мясцоваму кампазітару, мастацкаму кіраўніку Свяціцкага Дома культуры Мікалаю Сокалу. Вера Іосіфаўна лічыць яго сваім вучнем у літаральным сэнсе гэтага слова: у школе была яго класным кіраўніком, заўважала, наколькі тонка ён успрымае музыку. Хлопец вучыўся ў Ляхавіцкай музычнай школе, закончыў Сімферопальскае музычнае вучылішча. На вершы Веры Дыдышка ён напісаў песні «Маленне», «Свяціцкая лірычная», «Песня пра маму», «Рапсодыя», «Белая лілея», «Ветэранам». Вера Іосіфаўна расказала гісторыю кожнага сумесна напісанага твора, падкрэсліваючы талент кампазітара. Падчас сустрэчы гучалі песні і вершы паэтэсы з новай кнігі «Узрушэнне сэрца», якая хутка ўбачыць свет.

**Рыма ПРЫТУЛЬЧЫК,**
**загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі Ляхавіцкай ЦБС**

*Рэха падзей*

# У падарунак — кнігі

**Сёлета Слабадская сельская бібліятэка была рэарганізавана ў бібліятэку-клуб і змяніла прапіску. Нядаўна адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка.**

Дырэктар Уздзенскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Аксана Драчан перадала ў дар ад Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь 513 кніг для дзяцей і дарослых на суму 15,6 мільёна рублёў. У асноўным гэта даведачная, вучэбная і мастацкая літаратура.

— Не першы год мы супрацоўнічаем з дырэктарам Прэзідэнцкай бібліятэкі Сяргеем Квачаном па папаўненні і абнаўленні фондаў нашых бібліятэк, — адзначыла Аксана Валер'еўна. — Напрыклад, у мінулым годзе нам было перададзена звыш ста кніг, якія размеркаваны паміж дзіцячай бібліятэкай, Дзешчанскай, Сямёнаўскай і Ліцвянскай сельскімі бібліятэкамі. Спадзяюся, што і надалей мы будзем падтрымліваць сяброўскія адносіны. Таксама прыемна, што кола нашых сяброў пастаянна пашыраецца. Свае новыя кнігі нам перадае доктар тэхнічных навук, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Георгій Блюмін.

Ганаровым госцем мерапрыемства стаў пісьменнік, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрый Вінаградаў. Ён таксама завітаў у бібліятэку не з пустымі рукамі — на паліцах знайшлося месца для некалькіх кніг аўтара з аўтографам і пажаданнямі чытачам.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ**

# Хто лепшы ў прафесіі?

**Падведзены вынікі конкурсу прафесійнага майстэрства «Лепшы па прафесіі-2013», які праводзіцца Міжведамасным гарадскім бібліятэчным саветам.**

У фінал спаборніцтва выйшлі шэсць чалавек. Пасля першага і, мабыць, аднаго з самых важных конкурсаў — «візіткі» — стала зразумела, што барацьба будзе сур'ёзная. Хоць адразу вызначыўся фаварыт — Марына Петрашкевіч з дзіцячай бібліятэкі № 8. Але прыемна здзівілі і іншыя прэтэндэнты, якія прадставілі і песні, і дасціпныя відэаролікі, і яркія прэзентацыі. Потым былі адказы на пытанні анкеты, прадстаўленне праектаў (падчас якіх бібліятэкі нават адправілі ў космас) і расповед бібліятэкараў пра сябе.

У выніку перамагла менавіта М. Петрашкевіч, якая, паводле меркавання журы, найбольш ярка і падрабязна распавяла пра сябе як пра чалавека, які не падзяляе адпачынак і працу. Бо ўсе ідэі, якія часам нараджаюцца па-за межамі бібліятэкі, усё роўна ў рэшце рэшт туды пераносяцца. Марына ажыўляе казкі, ахвотна піша артыкулы пра бібліятэку, будуе хатку з... палачак ад марожанага, дзе потым жывуць героі кніг, прыдумляе захапляльныя прыгоды для сваіх маленькіх чытачоў.

Другое месца заняла Вольга Журомская з БДПУ імя М. Танка, трэцяе — Аксана Кухарэнка з Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска.

**Вікторыя БАРОДЗІЧ,**
**метадыст II катэгорыі,**
**аддзел маркетынгу ЦГДБ імя М. Астроўскага**

# Вяртанне Баркалабаўскага летапісу

Да сёлетняга Дня беларускага пісьменства ў Быхаве гісторыка-краязнаўчы клуб «Спадчына», што дзейнічае пры аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі, правёў для студэнтаў навучальных устаноў горада, чытачоў і супрацоўнікаў бібліятэкі шэраг мерапрыемстваў.

Гістарычнае падарожжа «Краса і гонар Быхаўскага краю», якое суправаджалася мультымедыйнай прэзентацыяй, пазнаёміла са старадаўнім Быхаўскім замкам, які існуе з XVI ст., з сінагогай абарончага тыпу (адзінай, якая захавалася ў Беларусі), Троіцкай царквой — помнікам архітэктуры драўлянага дойлідства; з вёскай Баркалаба, якая атрымала вядомасць дзякуючы Баркалабаўскаму летапісу, створанаму тут у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя, а таксама Баркалабаўскім Свята-Вазнясенскім жаночым манастыром і цудатворнай іконай Баркалабаўскай Божай Маці.

Госці імпрэзы мелі магчымасць пабачыць чароўныя мясціны і помнікі прыроды краю: Грудзінаўскі палацава-паркавы ансамбль, зону адпачынку рэспубліканскага значэння — Чыгірынку, хвоі-гіганты «Навабаярскія», батанічны помнік прыроды «Дубгігант» і інш.






Старонка летапісу.

Другой значнай падзеяй стаў бенефіс кнігі «Баркалабаўскі летапіс — нацыянальная каштоўнасць беларусаў». Гісторыка-літаратурная кампазіцыя ў суправаджэнні мультымедыйнай прэзентацыі пазнаёміла гасцей з гістарычнымі ўмовамі і месцам стварэння летапісу, праблемамі вызначэння аўтарства літаратурнага помніка і яго зместам, гісторыяй вывучэння і выдання хронікі. Летапіс змяшчае ўнікальныя звесткі па гісторыі Усходняй Беларусі: інфармацыю пра асобныя ваенна-гістарычныя падзеі; гісторыю беларускай культуры і праваслаўнай царквы; узнікненне г. Магілёва і ўласна Баркалабава. Упершыню ў айчыннай літаратуры падрабязна зафіксаваны побытавыя аспекты жыцця, гаспадарчыя справы беларусаў у старажытныя часы, а таксама іншыя гісторыка-краязнаўчыя і этнаграфічныя матэрыялы.

Арыгінал летапісу сёння ў адзіным экзэмпляры знаходзіцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Але дзякуючы Валерыю Казакову, расійска-беларускаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу, кіраўніку Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі», у Магілёўскай абласной бібліятэцы з'явілася факсімільнае выданне «Баркалабаўскага летапісу XVI — XVII стагоддзя». Цяпер шырокая чытацкая аўдыторыя мае магчымасць пазнаёміцца з легендарнай хронікай у яе арыгінальным выглядзе.

Валерый Мікалаевіч таксама перадаў у дар магілёўскім чытачам факсімільнае выданне «Слуцкага летапісу XVI стагоддзя» і свае новыя кнігі з аўтографамі: «Цень Гобліна — Халоп Найяснейшага імператара» (Мінск, 2012) і «Пыльнае сонца» (Масква, 2013), распавёў пра працу па набыцці і выданні Баркалабаўскай хронікі, падзяліўся творчымі задумамі, адказаў на шматлікія пытанні аўдыторыі.

**Тамара КАЛІНІНА,**
**загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Чытанні працягваюцца

Імя члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР, літаратуразнаўцы, бібліёграфа, кнігазнаўцы, гісторыка літаратуры Паўла Беркава добра вядомае спецыялістам і аматарам кніжнай справы. У маі 2011 года ў Мінску прайшлі Першыя «Беркаўскія чытанні». Цяпер надышоў час другога форуму.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Арганізатарамі канферэнцыі (афіцыйная назва — Другая Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беркаўскія чытанні. Кніжная культура ў кантэксце міжнародных кантактаў») выступілі Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі, а таксама Навуковы і выдавецкі цэнтр «Навука» Расійскай акадэміі навук. Яе ўдзельнікі — навукоўцы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Балгарыі.

Падчас адкрыцця былі зачытаны прывітанні ад намесніка старшыні Прэзідыума НАН Беларусі акадэміка Уладзіміра Гусакова і прэзідэнта Расійскай акадэміі навук акадэміка Юрыя Осіпава. Акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя выказаў удзячнасць гаспадарам форуму — ЦНБ імя Я. Коласа, якая выступае пляцоўкай для папулярызацыі новых навуковых адкрыццяў і распрацовак, што ажыццяўляюцца супрацоўнікамі НАН. Падобныя чытанні сведчаць пра высокі навуковы патэнцыял установы.

На пленарным пасяджэнні найбольш цікавымі падаліся два даклады. Назва выступлення дырэктара ЦНБ Наталлі Бярозкінай афіцыйна гучала як «Кніжныя гісторыі: старонкі з жыцця кніг». Але на практыцы Наталля Юр'еўна сканцэнтравалася на гісторыі радзівілаўскай бібліятэкі, спынілася на асобах Мікалая Радзівіла Чорнага, Мікалая Радзівіла Сіроткі, Ганны Радзівіл, Мікалая Радзівіла Рыбанькі і Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку. Яна нагадала, што ў 1772 годзе, пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі Нясвіж занялі рускія войскі, радзівілаўскую бібліятэку (15 тысяч асобнікаў) вывезлі ў Санкт-Пецярбург. Пане Каханку пратэставаў, але мусіў задаволіцца грашовай кампенсацыяй.

У 1880-я гады, пры Антонію Радзівілу, адбылося аднаўленне кніжніцы. Пасля далучэння Заходняй Беларусі 10-тысячная бібліятэка была перададзена ў Акадэмію навук. Але пасля вайны з радзівілаўскай спадчыны вярнуліся толькі кнігі, якія паспелі прайсці першасную апрацоўку ва ўстанове. Астатнія асобнікі знаходзяцца ў іншых месцах. Пра значэнне бібліятэкі сведчыць той факт, што ў 2009 годзе кнігазбор Радзівілаў быў уключаны ў рэестр ЮНЕСКА. Таму задача бібліятэкараў — стварыць агульны рэсурс, які б адлюстроўваў усе звесткі пра яе.

Сяргей Лютаеў, загадчык лабараторыі кнігазнаўства Дзяржаўнай публічнай навукова-тэхнічнай бібліятэкі Сібірскага аддзялення РАН, разважаў над праблемай «Кніжнасць як традыцыя». Ён адзначыў, што на эвалюцыю кнігі ўплываюць крызісныя тэндэнцыі. У Расіі адкрыта кажуць пра катастрафічнае зніжэнне цікавасці да чытання. Між тым, кніга звязвае пакаленні людзей. Трываласць гэтых сувязей правяраецца часам, прычым адно з такіх выпрабаванняў адбываецца цяпер. Дакладчык параўнаў цяперашні пераход ад друкаванай да электроннай кнігі з пераходам ад рукапіснай да друкаванай.

На думку С. Лютаева, існуюць як мінімум тры пытанні, адказы на якія мусіць шукаць навуковая аўдыторыя. Цяпер адбываецца змена пакаленняў, што звязана з пераасэнсаваннем каштоўнасцей і стварэннем іх новай сістэмы. Якое месца зойме ў ёй кніга? Пакуль сацыёлагі сведчаць, што яе каштоўнасць ацэньваецца хутчэй са знакам мінус. Другое пытанне звязана з успрыманнем кніжнасці як старажытнай традыцыі. Таму кнігазнаўцы больш даследуюць сучасную кнігу, а філолагі — рэдкую. Атрымліваецца пэўная раз'яднанасць. Трэцяе пытанне — суіснаванне кніжнай і экраннай культуры, або друкаванай і электроннай кнігі.

# Гомельскія рабінзоны




130-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра дзіцячыя ўстановы Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы адзначылі літаратурнымі квестамі «Гомельскія рабінзоны».

Ідэя ўзнікла ад жадання супрацоўнікаў змяніць агульнае ўяўленне пра бібліятэку. Каб гэтае слова не асацыіравалася са стэлажамі кніг і кафедрамі, а ўзнік вобраз месца, дзе можна цікава правесці вольны час, узяўшы ўдзел у прыгодніцкай гульні. Бібліятэчны квест — гэта гульнявы маршрут, у кожным з пунктаў якога хаваецца загадка, якую трэба разгадаць.

Вучні гімназіі № 10, якія завіталі ў цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна, падзяліліся на дзве каманды. Яны атрымалі эмблемы з назвамі і спачатку пазмагаліся за карты маршрутаў, адказаўшы на пытанні віктарыны па біяграфіі і творчасці Я. Маўра.

Камандам было прапанавана прайсці праз пяць літаратурных квест-тэрыторый — аддзелаў бібліятэкі, у якіх былі аформлены куткі для выканання заданняў. Цікава, што самі пытанні ў канвертах таксама былі схаваныя.

Напрыклад, у чытальнай зале стаяла сапраўдная турыстычная палатка, каля яе — прыстасаванне для кацялка, спінінг. Пра такія рэчы героі Янкі Маўра і не марылі. Тут удзельнікам квеста неабходна было адшукаць крыніцу вады (фантан), выстаўку-інсталяцыю «Дрэва ведаў», пад якім былі схаваны ўказанні для далейшых дзеянняў. На абанеменце прайшла гульня «Правільна» і «Ілжыва», потым камандам давялося знайсці заечую капусту сярод раслін у гэтым аддзеле бібліятэкі. А патрапіўшы ў Музей аўтографа, каманды ўжо шукалі расліну папараць, пад лісцем якой было схавана наступнае заданне: знайсці партрэт Я. Маўра сярод іншых пісьменнікаў. За партрэтам новае заданне — адшукаць у тэксце аповесці і зачытаць, як Янка Маўр апісваў свет захапленняў галоўных герояў.

Паводле ўмоў прыгодніцкай вандроўкі ўдзельнікам неабходна было не толькі пераадолець усе перашкоды на маршрутах, але і зрабіць гэта вельмі хутка. Менавіта хуткасць і стала вырашальным паказчыкам пры вызначэнні пераможцаў.

Дарэчы, пасля правільна адказу на пытанне ўдзельнікі атрымлівалі адну літару слова, якое яны павінны былі скласці ў самым канцы гульні. І гэта слова было РАБІНЗОНЫ.

**Валянціна ШЧАКАЦІХІНА,**
**метадыст ЦГБ імя А. І. Герцэна,**
**фота аўтара**

# Ён па жыцці ішоў паэтам

**Ганна ЗІМАЦКАЯ**

Вечарына, прысвечаная творчасці паэта Эдуарда Зубрыцкага, прайшла ў Бігосаўскім доме культуры. З нагоды 75-й гадавіны з дня яго нараджэння імя паэта прысвоена мясцовай Дзвінскай раённай бібліятэцы.

Будучы творца нарадзіўся ў 1942 годзе у вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна. Першы верш надрукаваў у 1960-м у бягомльскай раённай газеце «Савецкі патрыёт», наступныя — у часопісе «Маладосць». Пасля заканчэння БДУ Э. Зубрыцкі працаваў настаўнікам у Асвеі, пасля перайшоў у газету «Дзвінская праўда». Асабліва актыўна ён стаў займацца творчасцю з 2001 года, калі выйшлі зборнікі «Птушка з водгукам заранкі», «Журлівіца», «След чмяля», «Прычашчэнне», «Суэма». У 2005-м творцу прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У 2008 годзе ў выдавецтве «Беларускі Дом друку» выйшла кніжка выбранага «Восень над вогнішчам». На жаль, самому аўтару яе пабачыць не давялося…

Трымаючы слова на вечарыне, якая мела назву «Я па жыцці іду паэтам», брат Э. Зубрыцкага Леанід падзяліўся ўспамінамі пра іх дзяцінства. Расказаў пра ваенныя гады, калі для іх сям'і існавала рэальная пагроза быць спаленымі карнікамі. Ён адзначыў, што другой радзімай Эдуарда стаў Верхнядзвінскі край, дзе паэт пражыў большую і лепшую частку жыцця, выгадаваў з жонкай дзяцей, пісаў і рыхтаваў зборнікі вершаў. Ад імя ўсіх сваякоў Леанід Зубрыцкі выказаў словы падзякі мясцовай уладзе за ўвагу да творчасці Эдуарда і ўвекавечанне яго памяці. А Ігар, сын Эдуарда Зубрыцкага, падараваў усім зборнікі бацькавых вершаў.

Гасцямі імпрэзы сталі старшыня раённага Савета дэпутатаў І. Козел, начальнік аддзела культуры райвыканкама Т. Сыраватнікава, дэпутат абласнога і раённага саветаў дэпутатаў, генеральны дырэктар ААТ «Інвет» С. Грамадка, старшыня Бігосаўскага сельвыканкама У. Ходас, прадстаўнікі бібліятэкі, а таксама сваякі Эдуарда Зубрыцкага.

Мерапрыемства падсумавала выступленне заслужанага аматарскага тэатра «Пілігрым» з пастаноўкай «Рагнеда». У фае Дома культуры была разгорнута выстаўка работ дзіцячай школы мастацтваў, падрыхтаваная спецыяльна да вечарыны.

# «Штосьці будзе...»

Спектаклем «Дзяды» паводле аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча распачаў дзейнасць беларускі антрэпрызны «Тэатр Ч».

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Паводле паэта Міцкевіча, айчына мае душу і гэтай душы баліць. Баліць і душы свету — за душу кожнага, хто ў ім ёсць, за кожнае дрэва і за кожную айчыну. «Але чым жа ёсць жорсткасць мінулых гадоў у параўнанні з тым, што наш народ церпіць цяпер...»

...Карычневыя, вохрыстыя, жаўтлявыя фарбы размаітых боскіх выяўценяў атачаюць прастору сцэны — заднік і пляскатыя прамавугольнікі на штанкетах, навіслыя па-над пляцоўкай. Яны не рухаюцца зусім, але стрэмяць вока тым, як мы «пад Богам ходзім» і ад Бога маем выбар. Асвятленне падтрымлівае цёплы каларыт... не касцёла, не бажніцы; часам надае крыху не хатняе ўтульнасці — нейкай сакральнай прасторы ў сусвеце, якая, напэўна, і ёсць чалавечым жытлом паводле мастака Марыюса Яцоўскіса. Сузіранне сцэнічнае прасторы — праўдзівыя ўваходзіны ў свет спектакля «Дзяды», створаны літоўцамі і беларусамі на падставе агульнай літаратурнай спадчыны, пісанай па-польску.

Прастора сілкуе відовішча, дзе герой відавочна не супрацьстаіць злачынцу, а персанажы не выяўляюць унутраных канфліктаў. Вызначальныя падзеі сцэнічных таемстваў і пакут засталіся ў мінулым альбо за кулісамі. Канфлікт, які рухае Міцкевічавы «Дзяды» на сцэне, нітуе паэзію ды філасофію, спраўджваецца на памежжы чалавечага і не чалавечага, таго, што мае душу, і таго, што нішчыць душу. З такім парадкам рэчаў дапамога душам (прадкаў) выяўляецца ўмовай гарманічнага існавання не толькі чалавека, але і яго атачэння-асяроддзя. Няспраўджанасць чалавечага жыцця і неўпарадкаванасць асобнае душы здольныя паўплываць на сусвет. У адказ душа свету можа спрыяць чалавечай душы...

Вялікая імправізацыя паводле Міцкевіча рыхтаваная перакладчыкам Сержам Мінскевічам (якасць пераствварэння ўражвае) і драматургам Максімам Клімковічам; шраг моцных асацыяцый стварае рэжысёр Рамунэ Кудзманайтэ, спавядаючы адметную сцэнічную эстэтыку і вымагаючы адметнай глядацкай культуры — у адказ. Верагодна, гэтая глядацкая культура ўжо паразумелася з эстэтыкай Тумінаса, Някрошуса, Латэнаса; дзеля справядлівасці варта згадаць пра ролі ў фармаванні гэтай эстэтыкі Далі Тамулявічутэ (рэжысёр, кіраўніца курса, дзе навучаліся Някрошус і Латэнас) і нават самога Ёзаса Мільцініса. Сведчу: славутыя рэжысёры супраць вызначэння «літоўская рэжысёрская школа». Іншая рэч — эстэтыка, рэжысёрская мова (асаблівасці пластычныя, музычныя, абыходжанне з вобразамі, знакамі, метафарамі): зрэшты, няможна служыць літоўскаму тэатру і не ведаць літоўскую. Рамунэ Кудзманайтэ ведае...

Выяўленчая мова рэжысёра спектакля не груваcткая, але шчыльная, абжываецца кожны сантыметр сцэнічнае прасторы і адначасова на сцэне шмат паветра. Яркія і дасціпныя вобразы не патрабуюць перакладу, але вымагаюць пільнасці, эмацыянальных выдаткаў і душэўнай працы. Міцкевіч аніяк не стасуецца з «шараговым прачытаннем», але прачытанне Рамунэ Кудзманайтэ не прадбачыць, не пралічыць наперад, нават ведаючы фабулу паэмы. Каштоўны факт!

З абраду першага акта і ахвярапрынашэння другога імправізатар Рамунэ ўтварае сцэнічную містэрыю — працягам страчанай, каляндарнай містэрыі смерці, дзе «Зямля і Космас успрымаліся як адухоўленыя істоты...» Містэрыя са зваротамі да Бога, паўстаннем супраць Бога, адмаўленнем Бога і замірэннем-чаканнем. Каму дзеіць гэткае, як не Паэту? У целе персанажа Густава — пакутаваць на няспраўджанае каханне і пераймаць жудлівую прыгажосць абраду «дзядоў». Падзяляць агульнае прадчуванне, маўляў, «штосьці будзе... штосьці будзе...» У целе персанажа Конрада — не думаць пра наступствы бунту супраць улад — зямных і вышэйшых. Быць пакараным людзьмі. Быць беражоным Богам. Урэшце, паставіць знак роўнасці між каханнем да жанчыны і любоўю да Айчыны. (Паэта з асоб Густава і Конрада ўвасабляе адзін артыст — Раман Падаляка.)



*Фота Аляксандра Дзмітрыева*

...Закруцяцца дзяўчаты ў белых спадніцах, паляцяць лістападаўскія сняжынкі, з'явяцца саначкі і снежкі, загарэзуе моладзь... і згуртуецца сашчэпіцца ў цела хора, ачоленага Варажбіткай. І надыдуць Дзяды. Дзядоўскі гэты абрад быў гнаны клірам, але (як і шмат якія праявы мінуўшчыны) зніатаваўся з тым, што прышчапілі тысячу гадоў: «...нашы Дзяды маюць тую асаблівасць, што паганскія абрады памяшаныя з усведамленнямі хрысціянскай рэлігіі... Паспаліцтва верыць, быццам пачастункамі, напоямі і спевамі прыносіць палёгку душам, што томяцца ў чысцы...»

У прасторы спектакля паспаліцтва гуртуецца шчыльна, дзеянне ладзіцца дакладна, рытмічна. Сялянскі хор, які заклікае душы, мае ролю антычнага праваднікa і тлумачальніка. І хай нікога не збіваюць з тропу аблавушкі, валёнкі ды камізэлькі — мастак па касцюмах Надзея Гульцяева стварыла дасціпны і па-свойму вытанчаны вобраз народа. Звыклыя рэчы (конаўкі, галінкі дрэў, стужкі, люстэркі) у шматлікіх руках дапоўняць карціны таемства; дрэва, метал, вада, паліраваныя і празрыстыя паверхні надаюць абраду жудлівай шчырасці сялянскае магіі. Душа свету размаўляе ў спектаклі на мове вады, зямлі, дрэва. Акцёрскае абыходжанне з імі сведчыць пра паразуменне свету з чалавекам: свет прапускае чалавечыя душы для пераўтварэння.

Маляўнічыя душы — бязгрэшныя дзеці, люты пан, кабета, якую пан выправіў на пагібель, дзяўчына, што не спазнала кахання, — пададладныя дзеянням хора і магіі Варажбіткі (адна з лепшых роляў Зоі Белахвосцік). Падзейны шраг належыць Міцкевічу, увасабленне пераканаўча вынайдзена Кудзманайтэ. Кожная душа мовіць пра сваю жыццёвую дарогу, кожная атрымлівае сваю пачостку і вырак. Дзеткам бракавала гарчычнага зярнятка («Хто не зведаў горычы ні разу, / Таму слодычы не будзе ў небе»), дзяўчыне — пачуццяў («Не крануўся хто зямлі ні разу, / Той наўрад ці можа быць на небе»), пану — дарогі да пекла («Хто не быў ніколі чалавекам, / Чалавек таму не дапаможа»). Густаў, «жывы нябожчык», «нябожчык толькі для свету», з'яўляецца на гуканне хору, але прастуе да Ксяндза — той не адразу агледзеў у ім свайго вучня. Як крыж цягне Густаў ссохлы квят у вазаніцы — на сведчанне і знак няспраўджанага кахання. Крыж выратавальнае веры атрымлівае Густаў ад Ксяндза, і на нейкі час адстаўлена вазаніца...

Кульмінацыя першага акта — самагубства Густава праз немагчымасць кахаць вольна і шчасліва. Густаў гамоніць з Ксяндзом на авансцэне, гатовы ўзлунаць на вершах Міцкевіча, не роспачны, не істэрычны. На вачах цвярдзее ад прынятага рашэння, прабівае вазаніцу стылетам, з яе вывальваецца дно, шугае долу сухая зямля — адыходзіць душа Густава...

На сцэну, цягнучы ніты лёсу, вырушаюць анёлы, звястуючы працяг пераўтварэння і ахвярапрынашэння. Ніты нацягваюцца, перакручваюцца, выпростваюцца, і... памерлы Густаў пераўтвараецца ў змагара Конрада, а пад боскімі выявамі сцэнічнае прасторы апынаецца вязніца без межаў, — прастора вёскі, горада, дзяржавы. Тут ладзяць пагулянку чэрці, пільнуюць чалавечыя душы. Тут Конрад чакае страты: «Каб я, жывы, быў мёртвы для сваёй айчыны...» Вязні, з якімі суседзіцца Конрад, ужо памерлі для айчыны шляхам так званай грамадзянскай страты. Наперадзе — вырак жыццю. Доўжыцца містэрыя смерці: хор сялян пераўтвораны ў хор вязняў, якія рыхтуюцца да горшага на чале з Конрадам, і ў выбітных вершах паўстаюць карціны ганення, выгнання, пакарання. Падзеі XIX стагоддзя актуалізуюцца сведчаннем Адама Міцкевіча пра велічную імперскую палітыку. «Наша краіна ўяўляе сабой карціну бязмежнай самаахвярнасці народа і такой упартай трываласці, якім не было прыкладу ад часу пераследу хрысціянства. Здаецца, што цары і каралі, як некалі Ірад, маюць прадчуванне пра з'яўленне новага святла на зямлі і пра блізкі свой заняпад...»

Аддамо належнае рэжысёру:перадусім вядзе рэй паэзія! Штучнае ілюстраванне, мудрагельствы і ператлумачванні адрынутыя прынцыпова, бо паэзія сведчыць: развязаць зямную ганебнасць у спектаклі здатны толькі Бог альбо ягоны прадстаўнік. Такім прадстаўніком прагне зрабіцца Конрад, звяртаючыся да Бога: «Хачу я ўладу мець, якую сам Ты маеш, / Хачу я душамі ўладаць, як Ты ўладаеш». Ад жаху знікаюць чэрці, а на першы план выступае тройка анёлаў, — на знак таго, што асуджаны людзьмі Конрад будзе зноў пакліканы людзьмі ды айчынай.

Містэрыя — тая спадчына культуры ды эвалюцыі, на якую ўсё яшчэ адгукаецца наша «калектыўнае несвядомае». У фінале містэрыі смерці сялянскі хор выходзіць з дрэвамі і старанна яднае карані з зямлёю і вадою (палівае). «Штосьці будзе... Штосьці будзе...» На дрэвы вернуцца птушкі, душы прадкаў, і мусіць надысці вясна — велічная містэрыя народзін і паўстання з памерлых. Яе назавуць адраджэннем.



*Фота Аляксандра Дзмітрыева*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2726
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 13.06.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2453
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686